На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г. На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г.

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА
## НА ЎСЕ ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ ПЭРЫЯДЫКІ

| Назва выданьняў | Характар | Пэрыядычнасьць | Умовы падпіскі: | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 м-ц | | 3 м-цы | | 6 м-цаў | | 1 год | |
| Бальшавік Беларусі . . . | Ворган ЦК КП(б)Б. | Штомесячн. | — | 35 | 1 | 05 | 2 | 10 | 4 | 20 |
| Партыйны работнік . . . | ,, ,, ,, | Двухтыднёв. | — | 25 | — | 75 | 1 | 50 | 2 | 75 |
| Іскры Ільліча . . . . . | Ворган ЦК ЛКСМБ | Штомесячн. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Бюлетэнь СНК . . . . . | Ворган СНК БССР | Па накаплен. матэрыял. | — | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Маладняк . . . . . . | Літ.-мастацк. час. | Штомесячн. | — | 30 | — | 90 | 1 | 60 | 3 | — |
| Узвышша . . . . . | Літ.-мастацк. і крытыкі | На год 10 нум. | — | — | — | — | 3 | — | 5 | — |
| Сельская і лясн. гаспадарка | Ворган Інстытуту імя Леніна | На год 6 нум. | 2 | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Савецкае будаўніцтва . . | Ворган Дзяржпляну | Штомесячн. | — | — | 2 | — | 4 | — | 7 | 50 |
| Паляўнічы Беларусі . . . | Ворг. Белпрамкоопсаюзу Паляўнічых | Штомесячн. | — | 30 | — | 70 | 1 | 20 | 2 | — |
| Беларуская работніца і сялянка . . . . . . . | Ворган жанаддзелу ЦК КП(б)Б | Двухтыднёв. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Збор законаў і загадаў. . | Ворган ЦВК БССР | У 2-х аддз. | — | — | — | — | 5 | — | 10 | — |
| Шляхі калектывізацыі . . | ,, НКЗ і Белкалгассаюзу | Штомесячн. | — | 20 | — | 60 | 1 | 10 | 2 | 20 |
| Комуністычнае выхаваньне. | Ворган НК Асьветы | ,, | — | 80 | 2 | 30 | 4 | 50 | 8 | — |
| Наш край . . . . . . | Ворган ЦБ Краязн. | ,, | — | 50 | 1 | 25 | 2 | 25 | 4 | — |
| Штэрн . . . . . . | Яўр. літар.-мастац., палітычн. часопіс | ,, | — | 60 | 1 | 50 | 3 | — | 6 | — |
| Часопіс „ПОЛЫМЯ" . | Літар., паліт., эканоміка і крытыка | ,, | 1 | — | 3 | — | 5 | — | 10 | — |
| Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" | Мастацка-ілюстрав. часопіс | Двухтыдн. | — | 30 | — | 75 | 1 | 50 | 3 | — |

Гадавым падпішчыкам даецца растэрміноўка на часопіс „Полымя": пры падпісцы—4 р. 1-га верасьня—3 р., 1-га лістапада—3 р.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** Бюро Падпіскі БДВ, Ленінская, 19, тэл. 17-12; Цэнтр. Кнігарняй, Ленінская, 19, тэл. 95; Усімі акруговымі аддзяленьнямі БДВ; Газэтным Бюро; Аддзелам Падпіскі ГІЗ'а РСФСР і ўсімі нашымі ўпаўнаважанымі, маючымі адпаведныя пасьведчаньні.

**БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.**

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ




25 чэрвеня 1930

N 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.
Тэл. 7-41



## РАДЫЁ-МАЧТА

ФОТО-ЭЦЮД

Апавяданьне Р. МУРАШКІ

Малюнкі КІПНІСА

# ЗАКОПАНЫ ПУП



У РОЗНЫХ народаў, на розных ступенях культурнага разьвіцьця жыў і яшчэ часам жыве такі звычай: пры нараджэньні дзіцяці, старэнькая бабка іржавым нажом, які знарок хаваецца для гэтае мэты, адрэзвае яму пупавіну. Адрэзаную пупавіну сьцерагуць як сваё вока.

Такі звычай існаваў і існуе ў шмат якіх славянскіх народаў і існуе цяпер у некаторых племеньняў сярэдняе Афрыкі.

Нешта аднаго разу мне давялося пачуць, як у вясковай глушы дз цям пры нараджэньні адрэзвалі пупавіну, варылі яе ў вадзе і гэтую ваду давалі піць парадзіхам.

Беларускія сяляне адразалі пупавіны і закопвалі іх, схаваўшы ў які стары гаршчок, ці глячок, дзе-небудзь пад клецьцю, у каморцы ці пад хлявом.

Трэці варыянт, думаем, не адрозьніваецца нічым асабліва ад першых двух. Справа ад гэтага ніяк не перайначваецца, дый справа па сутнасьці ня ў тым... Цікавяць нас не пупы, а пуп—і пуп нядаўнага мінулага. не далёкага па адлегласьці, ня чужога па пляменнасьці (возьмем наш родны беларускі белы) гэтае слова звычайна гаворыцца, каб адрозьніць, што белы цывілізацыя, чорны барбарства (пуп), пуп Рыжага Савося.

Вы ведаеце Слуцак? Слуцак—мой родны горад, але гэта не перашкодзіла таму, што адбылося шэсьць вёрст ад яго ў невялічкім сяле роўна трыццаць год таму назад.

На канцы гэтага сяла ў прысьлепаватай хатцы маладое ўдавы бабылькі Рыпіны пачуўся нацямочку жалобны дзіцячы піск. Гэта старая, сьляпая і бяззубая бабка ўсяго сяла Пятрэся з тонкім веданьнем свае справы любоўна адрэзвала над кніжкаю пуп нашаму Рыжаму Савосю.

І адрэзаўшы ўжо, унімала немы крык малога сваім старэчым вяшчунскім прыказам:

— От-жа, мой унучак, каб быў ты багаты і слаўны, як пан, і каб волас у цябе рассыпаўся па галаве гэтакі тонкі, як гэты твой галасок, ды каб быў ты разумны як пішацца ў гэтай кніжцы.

— Ох, бабка... прастагнала парадзіха.—Каб быў ён хаця такі як сусед Каўпель.—(Рыпіна ня раз той штогоду за хлеб ды сала адпрацоўвала Каўпялю).

— Каб ведалі, што,—не адказваючы парадзісе, вяла старая,—што ты сын Рыпінін... І дзе-б ты ня быў, унучак, куды-б ты ні зьяжджаў ды ня сыходзіў, каб ведаў ты, што пуп твой закопаны тут. Вось...

Малы засквярэў яшчэ мацней, але старая ўжо звыкла да гэтага. Прывычна ўвіхаючыся, яна скончыла сваю работу, узяла падарунак і, як службу адслужыўшы, пацяглася дахаты.

А празвалі яго Рыжым за яго валасы, што як капу пажоўклага сена вецер растрыбушыў на галаве, за яго аблуплены сонцам і сіверам нос, за твар, усыпаны дробным макам, упорчывых у сваіх у сваім жыцьці рабушак. Хто першы пусьціў гэтую мянюшку і калі, Рыжы Савось не памятае, але-ж з першых дзіцячых год у ім зарадзілася злосьць на ўсіх, хто казаў яе. Гэтая злосьць яго да сталасьці год вылівалася ў бойкі з хлапчукамі за адно напамінаньне пра колер рыжы, а пасьля ў прышчэпваньні такіх самых мянюшак каму трэба, а каму і не.



... У прысьлепаватай хатцы маладое ўдавы.

І ў школе ўзімку таксама. Хто слупам ля дошкі стаіць—Савось, хто на каленцах у кутку—Савось.

Рос ён буяным ды сварлівым. Ня раз бывала маці кажа:

— Каб ты нечага лепш не радзіўся.

— Трэ' было не радзіць,—адбрыкнецца ён, і рыжая капа валасоў здрыганецца на віхраватай галаве.

— А яшчэ-ж бабка вяшчуніла... А каб ты нечага лопнуў, гад печаны,—ня трэ было радзіць... Можа і не радзіла-б, каб ведала поскудзь такую.

Часта грызуцца так, без усялякае часам навочнае прычэпкі. А прычэпка была і прычына яе, заўсёдышнае, хавалася глыбока ў Рыпінінным сэрцы: чаму ён не такі, як людзкія дзеці.

— Ні ў бацьку—нябожчыка, ні ў мацеру, ліха ведае ў каго ўдаўся.

— Сам у сябе.

— Відаць што. Каб смачна зьесьці, хораша схадзіць ды не рабіць нічога. Каб ёй не ляжалася там, гэтай старой, як яна ўракла,—крыўдзілася на нябожчыцу, бабку, Рыпіна.



... Сунімала немы крык малога...

А Савось Рыжы рос, ды, здаецца, і ў вуха ня браў матчынае гаворкі. Маці ўпраўлялася рабіць свой агародзік, садзіць і прыбіраць, хадзіць у заработкі па суседзях, у панскія двары ды ў горад. Карміць трэ было ўжо не адну сябе. А гады праміналі і ўсё цяжэй ды цяжэй рабіўся зароблены хлеб.

Аднаго разу прышоўшы з гарадзкіх агародаў вельмі зморaная, галодная, яна не знайшла ў кубёлачку кавалка сала, што купіла ўчора за тры дні заработку.

„Ня мог-жа ён уперці ўсяго кавалка", падумала Рыпіна, і крыўда вялікая, балючая апанавала ёю.

Зьняможаная ўвайшла яна ў хату, села пры покуці—і вялікая крыўда памяшалася з сьлязьмі.

На вуліцы пачуліся крыклівыя галасы, сварка, мітусяніна, але Рыпіна пачула ўсё гэта тады, калі пушчаны з вуліцы камень разьбіў акно і звон шыбы рассыпаўся па хаце. Рыпіна ўсхапілася глянуць у вакно, але заўважыла толькі як паўз

вокны мільгануўся нехта недарэчна, пачула як забраскалі сенцамі і потым у хату ўвайшоў—не ўвайшоў, а ўпюўз Савось. Быў ён п'яны, пабіты і лаяўся вулічнымі словамі.

На адну хвіліну перарвалася вялікая крыўда ў Рыпіны і з самага сэрца вырвалася:

— Божачка мой... Што гэта з табою? Дзе ты гэта так.. з кім?

— Адчапіся... Ня лезь!—пачула яна—і зноў была крыўда і матчыная любасьць патанула—захліпнулася ў ёй.

— Божа мой, божа мой,—шаптала яна і не шаптала, а мысьленна крычала, ня чуючы ніякай палёгкі ад гэтага крыку.

— Я ім пакажу як біцца... Будуць памятаць... Будуць ведаць мяне... гразіў некаму Савось, а пасьля зноў лаяўся вулічнымі словамі.

Сяк-так запхнуўшы анучамі вакно, сьцішылася на палку Рыпіна, спала—ня спала цэлую ноч.

Савось яшчэ не прачынаўся, калі яна раненька пайшла ў заработкі. Спаў апрануты, абуты, з сінякамі на твары, брудны.

А прышоўшы пад вечар дадому, не застала Савося.

„Ізноў недзе",—агорклівa падумалася.

Сьцямнела ўжо, а яго таксама ня было. Запаліла лямпу. Тады прышлі да Рыпіны дзьве бабы і стары дзед: Яўгеніха ды Курыліха з пападтыканымі спадніцамі, абураныя, злосныя, і стары Аўсей—вечна з тэю люлькаю ў зубах, з засьліненаю барадою.

— Выгадавала, от выгадавала... Злодзея... Арыштанта...

— Думаеш падаруецца...

— Каб то сярод белага дню ды пры сьведках...

— Не падаруем...

Рызындавалі па хаце бабы, тыкаючы куксамі кулакоў, сапраўды відаць абураныя нечым. Стары за кожным словам „не падаруем" выпускаў з дымам:

— Не! Не! Не!

— Кабеткі мае, ды чаго вы на мяне?—спыталася Рыпіна, уварваўшы хвіліну, калі крык трохі перапыніўся.

— Чаго? Добра чаго... Ідзі паглядзі.

Бабы сілаю, як пад караулам, пацяглі Рыпіну да сваіх хат і паказалі на вокны, ў якіх былі перамалочаны ўсе чыста шыбы.


...шмат якія не далічылі ў сваіх сем'ях блізкіх, дарагіх...

— Гэта ня злодзей!.. Гэта не арыштант!..

Тады Рыпіна зразумела: Савось.

— Сястрыцы мае, ну што-ж я вінавата,—апраўдалася яна, вінаватая хіба толькі ў тым, што нарадзіла Савося,—што-ж я зраблю.

— Каб гэта такім смаркачом ды ўжо гарэлку піць, да панапіваўшыся біць вокны. От сьвет настаў,—азваўся стары Аўсей, выпусьціўшы цыбук з роту.

І стары расказаў, што чуў ужо, мабыць, ад дзесятага, як учора хэўра падшыванцаў купіла гарэлкі ў карчме і як, панапіваўшыся, пабіліся.

— Дык мне-ж вакно разьбілі... Нават і камень той ляжыць пад прыпечкам,—уставіла Рыпіна.

— Каб іх паўбівала!

— Каб ім не ўзрасьці!

Клялі бабы. А стары даказваў:

— А сёньня на похмельку пайшлі. Панакрадвалі збожжа на гарэлку ды ізноў. От бяды няма каму... І спаганялі за ўчарашняе. А сёньня вось... Каб такія смаркачы ды ўжо вокны біць.

„Хіба ён не дажджэ", падумала Рыпіна. „Я з яго скуру злуплю".

Зло ад некуль зьявілася на сына. І хоць у злосьці, а паабяваць заплаціць за пабітыя шыбы мусіла.

Вось захацелася цяпер улавіць, загаліць кашулю і паўразамі зрэзаць на горкае яблыка. От хацелася.

Але Савося ня было ў хаце.

„Хіба ты ня прыдзеш, гад!" падумала Рыпіна і лягла спаць.

А Савось і ня прыходзіў. І ўдзень ня было, і нанач ня прышоў.

Ужо і злосьць у Рыпіны прайшла і быццам трывога прабудзілася на самым дне сэрца:

„Дзе ён засіліўся"?

Савось нідзе не засіліўся. Зьявіўся назаўтра з усходам сонца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяглося жыцьцё Рыпіны, як тая старэчая пуга, пакуль не насьпелі вялікія, значныя ў сваёй велічы, страшныя людзям падзеі. Самае страшнае—вайна.

Нямецкая вайна ў плач і нэндзу ўкінула сяло, павуціньнем смутку апляла твары бацькоў, дзяцей. Ішлі на вайну з плачам, ішлі і з песьнямі, але праводзілі іх заўсёды сьлёзы тых, хто заставаліся. Шмат хто і не паварочаліся і іх вясёласьць ці туга перад адыходам пазабываліся, шмат папрыходзілі калекамі—старцамі; шмат якія не далічылі ў сваіх сем'ях блізкіх—дарагіх; шмат хто знайшлі новых, сваіх—чужых. Такі закон вайны. Толькі над усім гэтым стала новая падзея, і гора ды няпрыемнасьці падпалі яе ўладзе: рэвалюцыя. Страшнае, нячуванае рабілася ў жыцьці, страшнае і нячуванае па сваіх канцох: вайна з фронту перайшла ў тыл—у гарады, вёскі, у хаты, у сем'і.

Савось стаў рослым хлапцом, але ўсё таксама на галаве рыжэла растрыбушаная капа валасоў, але ўсё таксама дробны мак рабушак абсыпаў твар, але ўсё таксама гнезьдзіліся яны на чырвоным аблупленым з сіверу і сонца носе. І таму здаваўся няпрыгожым дзяўчатам, і таму не хацелі яны гуляць з Рыжым Савосем. Рыжы зрабілася яго прозьвішчам, Рыжы сьлед у сьлед ішло за ім, куды-б ні пайшоў, дзе-б ні быў, што-б ні рабіў. А рабіў ён шмат і з большага кепства людзям, і ўсе казалі ўжо, што ён самы апошні хлопец у сяле, што з ім боязна сварыцца, нічога ня можна казаць пры ім, і ўжо баяліся яго, як самага першага злодзея.

Толькі мінула гэта першая завіруха; адышлі немцы, за імі як тыя падсуседзі паўцякалі польскія легіёны. Пачаў устанаўляцца парадак, не падобны да ранейшага. І ў адну з мабілізацый пайшоў Савось на вайну, служыць у бальшавіцкай арміі.

„Ідзі" бяз усялякага жалю падумала Рыпіна. „Можа цябе жыцьцё навучыць, калі маці ня вывучыла... Можа вайна выб'е на чалавека".

---

Адгрымелі апошнія стрэлы грамадзянскае вайны, у якой Рыжы Савось невядома ўдзельнічаў ці не. Хадзілі чуткі (дзе іх ня бывае), што і дэзэртырам пабыў ён, і зялёным, а можа і белым. А калі ўсё-ж такі бальшавікі перамаглі, даслужваў у чырвонай арміі ні-то абозьнікам ці кашаварам, ні-то перапісчыкам нейкім у канцылярыі.

Смуткавала часамі Рыпіна: ні таго слова добрага, ні прывітаньня ад сына. Яна не пакідала яшчэ думкі, з якою выпраўляла некалі яго—можа вайна выб'е на чалавека. Можа і выбіла, але-ж хоць-бы слова, як людзкія сыны, напісаў. Няма.

Як матцы чырвонаармейца давалі ёй дровы, дапамагалі збожжам. Каб толькі сын стаў людзьмі, дык ужо і добра было-б жыць.

Але ня маючы лістоў ад сына, патроху пачала прывыкаць. Пасьціраліся ў памяці Савосевы выхадкі хлапецтва, а цяперашняга яна не магла сабе ўявіць, вось і пачалася неяк забывацца пра сына. І забылася-б можа, каб аднаго пагодлівага вясновага дню ня прышоў ён у паношаным, з ангельскага зялёнага сукна, шынэлі, у запыленых чаравіках з абмоткамі і ў будзёнаўцы.

Нібы і рада была Рыпіна яму. Абняліся, пацалаваліся, як пасьля доўгае разлукі двое родных, блізкіх. Але на другі-ж дзень на сходзе, на якія хадзіла яна акуратна і на які прышоў сын, слабая радасьць яе, быццам той туман лёгкім ветрыкам, разьвеялася. Савось выступіў супроць вывазкі сялом бярвеньня на новую школу.

— А як-жа будзе?—падаў ззаду нехта голас.

— От чалавек... А гэтак будзе: трудгужналог адбываем?

— Адбываем.

— Дык і адбывайма, а бярвеньня няхай вывязе сама воласьць. Дзьве скуры злупіць хочуць. Бачыце, якія хітрыя.

— Праўду кажаш, набож,—стукнуў кулаком па стале, праціснуўшыся наперад, Рыпінін сусед Каўпель.

За ім другія, цэлая капэля галасоў зьлілася ў крыкі, гоман. І вывазка бярвеньня на школу была сарвана.

Дома Рыпіна ўзяла яго на цыгундар.

— Што табе прыбыло з таго, што ты народ узбаламуціў. Ну няхай сабе ня вывязуць гэтага бярвеньня... А хіба-ж школа ня патрэбна. А хіба-ж тваім дзецям не патрэбна будзе?

— Не патрэбна.

— Як гэта не патрэбна,—зірнула на яго скоса Рыпіна,—можа ажэнішся калі.

— Ня буду,— дрэзаў Савось і павярнуўся, пайшоў гуляць на сяло.

Я малога некалі, дык так цяпер карміла яго з свайго заработку Рыпіна; у заработкі Савось нікуды не хацеў ісьці.

— Табе каб гуляючы хлеб есьці,— з крыўдаю азвалася раз маці.

— А на каго мне вельмі рабіць. Сам сабою і без работы пражыву.

Але Рыпіна пачала дапікаць і Савось сышоў. Тыдні два ня прыходзіў. Такі-ж нідзе ня дзеўся. Прышоў раз у новай міліцэйскай форме і з насьмешкаю кінуў матцы:

— Вось і хлеб будзе... Брахацьму мільтонам на людзей, а за гэта мне хлеба па кавалку кідацьмуць.

Маці нічога не адказала: не зрабіла вайна чалавекам сына. Ня вывучыла матка на чалавека, няхай яшчэ людзі добрыя павучаць. Няпраўда, мо' вымуштруюць.

Не паслужыў можа і году ў міліцыі Савось, кінуў.

— Хачу быць чалавекам... Мільтоны ня людзі.

Зазлавала Рыпіна.

— Дык чаго-ж ты сюды ўсё парогі абіваць валачэшся. Ідзі куды. У заработкі-ж ня пойдзеш са мною. А карміць я цябе ня ўзмозе, як сабе хоч.

— Ай-ей, падверадзілася вельмі кормячы. І пайду, што-ж там такое.

Накінуўшы напашкі свой ангельскі шынэль, не сказаўшы ні слова ласкі матцы за яе догляд, сышоў з воч.

Год ня было ніякае чуткі, паўтара ня было. К двум прыехаў. Голы, як старац, абшарпаны, але з форсам.

Хвілёвая жаласьлівасьць падкралася к матчынаму сэрцу, папытала Рыпіна:

— Дзе-ж ты быў, сынок?

— Белы сьвет вялікі і такім, як мне, хапае месца.

А хлопцам на сяле хваліўся, прынаднымі прыгодамі зьбіваў з простае і такое зразумелае ім пуцявіны свайго, сельскага жыцьця.

— Пачуў, што патрабуюць рабочых на Каўказ. Вось—паехаў туды. Дык хіба можна дзе прыпыніцца... Увесь Каўказ аб'ехаў, што ні ступіш, дык з начальствам нос к носу, ды яшчэ з армянаў, грузінаў ды розных—такі паскудны народ. Куды ні плюнеш—у начальства пападзеш,—вось начальства і гоніць.

— Ну, гэта ты глупства вярзеш... Цяпер усе роўныя, ня тое, што раней.

— Роўныя... зраўнаўся мужык з камісарам. Вось бачыш як я прыехаў. Так як камісар можа?.. Грошай—пры душы—ня было, з самага Каўказу зайцам ехаў.

— Дзе-ж ты іх падзеў? Зарабляў-жа мо'.

— Гэтакія бо' заработкі. Што і было, дык праеў, а рэшту на курорце злупілі. Эх, і курортаў там гэтых, курортаў!.. На беразе мора, на гарачынькім гэта пясочку... бабы... прыгожыя... голыя...

— І ты там быў... з імі?

— Ды ўжо-ж ня ты... быў. Усюды буду, калі захачу. Эх, і бабы... І ўсе-ж больш з сталіцы... з Масквы ды з Ленінграду...

— Але пабачыў сьвету,—зайдросьцілі хлопцы.

— Ты от не пабачыш, не асьмелішся зайцам на Каўказ заехаць.

— Пэўна-ж не. А лепей з свайго сяла нікуды.

— От-жа. Вяндліся тут. А я за Касьпійскае мора паеду, на параходзе ўжо. Там рабочых быццам наймаюць, чыгунку думаюць пракладваць.

І зноў паехаў Рыжы Савось, куды—яму аднаму вядома.

Маці ўжо і за сына пакінула лічыць. Бо які-ж гэта сын: прыдзе напрэцца, як сьвіньня, ні дзякуй тэй мацеры, ні трасцы, ні рубля грошай для абману воч—такі-ж корміць яго з свайго мазаля. А пад'еў—і з хаты. Вось калі не замінае ў хаце, дык і не ў галаве ён Рыпіне. Што-ж ты з ім зробіш.

Не сказаў і гэтага разу матцы куды паедзе ці пойдзе, белы сьвет вялікі, як казаў Савось.

На сяле стаяла трывога, мітусяніна, сварка, не распазнаць што: зьбіраўся апошні сход (прыехалі з раёну)—пра колектыў у сяле. Вырашаўся лёс жыцьця вякамі складзенага, трымаліся за якое, кіпцюрамі ўшпіліўшыся прадзеды, дзяды, бацькі. А сыном вось гэтак цяжка выпала—за ўсіх зрабіць за іх. Як зрабіць? Памяняцца ці застацца прысвойну? Ці сапраўды палепшае ці загінецца на ўсё жыцьцё?

Надоечы прыехаў Савось. З зачэсаным рыжым чубам, як у казака, у новай гарадзкой тужурцы, у штанох на выпуск клёшам, і курыць навучыўся.

„Ані не перайначаў", пры першых словах гутаркі кінулася ў вочы Рыпіне. Бяз злосьці, бяз крыўды падумалася, як пра зусім чужога чалавека, з якім вось сустрэлася сёньня, а заўтра разыйдзецца і больш ня сустрэнуцца ніколі, да самае сьмерці: „Цяпер-бы толькі і жыць. Людзям вось шанцуе з дзецьмі... Усе дзеці як дзеці. Ці-ж цяпер ня жыць? Толькі-б і жыць".



... прышоў ён у паношаным, з ангельскага зялёнага сукна, шынэлі, у запыленых чаравіках з абмоткамі і ў будзёнаўцы...

Дадумала да канца сваю думку Рыпіна і пачула, як лягчэй неяк зрабілася, быццам, гэта думка мучыла яе праз цэлыя гады і толькі цяпер вось набралася яна сьмеласьці выказаць самой сабе.

Першага-ж дню, як прыехаў, Савось знайшоў сабе хэўру і пайшоў выпіваць. Здаецца, гэтак ня любілі яго ў сяле, гэтак зьнявідзелі, а хэўра на выпіўку знайшлася.

Савось ішоў з хлопцамі па вуліцы, а насустрач сусед Каўпель з душком з роту, з такім, як сам.

— Прыехаў, нябож — суседзе!.. Такі цягне на радзіму.

— Ды ня вельмі. А толькі што прыпыніцца ёсьць дзе.

— Ну, ну, не скажы... Цягне. Ды як-жа не цягнуцьме,— можна сказаць, дзе-ж пуп закопаны. А ў нас глядзі што дзеецца, суседзе. У людзей, можна сказаць, адбіраюць гэтую радзіму,— ціха ўжо п'яным і ня п'яным голасам даказаў Каўпель—кулакоў шукаюць, на людзей палююць... Каб у ссылку ссылаць.

Слова за слова разгаманіліся хлопцы Савосевы з старымі. Нарэшце, Каўпель адарваўся ад Савося і да хлапцоў:

— Што-ж гэта вы, маладзеж, ядры вашу палку!.. Можна сказаць, госьць прыехаў з-за сьвету дый не пачаставаліся. Гады ў рады бывае. А цяпер, можна сказаць, самы час папіць ды згуляць, усё адно ў калякцыў ісьці...

— Па нас усё можна.

— Там не дадуць ужо, ого не дадуць. Гэта ня тое, што калі захацелася, дык узяў дый зрабіў, бо сам сабою... Калякцыў на тое ён і калякцыў, каб не даваць самаволі людзям. У шкоду ўжо ня выладзішся—пад пугаю ў чарадзе будзеш.

— А мы ведаеш, дзядзька, пайшлі выпілі-б, ды няма дзе. Гарэлка тая горш за крамніну, на расхоп у каперацыі.

„Ведаем вас—на расхоп", падмігнуў адным вокам Каўпель і сказаў:—А мы вось, старыя маем... Таму што сьвята сьвяткуем. Калякцыў той, што будзе, сьвяткуем,—строгасьць прабегла па жартах і Каўпель засьмяяўся.—Эх вы!.. Ды пойдзем ужо, калі прымуць мае старыя. А мо' вам са старымі ня вельмі?..

— Абы выпіць, дзядзька Каўпель... З кім хоч, хоць з чортам.

— Я вам пакажу—з чортам... Ну то пайшлі, маладзіца будзем ад вас,—засьмяяўся Каўпель, ухапіў за рукавы хлапцоў, пацяг за сабою. Правёў гэтак колькі крокаў, пусьціў і ўжо ўсе кучаю—старыя і маладыя—пайшлі да Каўпеля.

Цэлы гэты дзень піў Савось, прыцягся да хаты пад поўнач.

На другі дзень пахмяляўся. На трэці, калі зьбіралі сход пра колектыў, пайшоў з самага ранку зноў.



Савось стукнуў за сабою дзьвярыма. Пад канец сходу грукнула вакно, зазьвінеўшы разьбітаю шыбаю, і ў хату ўляцеў з кулак вялічынёю камень.

Перад самым сходам Савось зайшоў у хату. Ад яго моцна несла гарэлкаю.

Рыпіна, як у сьвята, завязвала новую белую хустку і, завязаўшы, папытала:

— На сход пойдзеш?

— А як-жа.

— Савоська, сынок мой!—загаманіла неспадзявана для сьб• просьбаю Рыпіна. Пакінь валацужыць... Хачу я хоць трохі зазаціць лепшага жыцьця... Запішамся ў каляктыў.

— Паглядзімо на сходзе.

Рыпіна не сказала больш ні слова, затуліла пачуцьці маўчанкаю, пайшла на сход.

Сход ужо пачаўся. Гаварыў прыежджы з раёну.

— ... Білі-білі буржуазію, але ня ўсю пабілі. А потым новая падрасла: нэпман у горадзе, кулак у вёсцы,—яны перашкаджаюць усімі сродкамі пераможнаму будаўніцтву соцыялізма. А каб пасьпяхова будаваць яго, трэба біць, дабіваць, таварышы, рэшткі гэтае буржуазіі. Вось колгас, скажам,—не па душы ён кулаку. А кулака шмат напладзілася. Вось чаму мы скажам, дасюль не організавалі колгас,—кулацтва мяшала. І ўсюды гэтак, хоць-бы ў тых самых Кляпчанах, дзе мы сягоньня ўжо організавалі колгас. Усюды кулакі праціўяцца. А дзеля таго, каб правесьці суцэльную колектывізацыю, як гаворыць наша партыя, трэба зьнішчыць кулацтва...

— Як зьнішчыць!—закрычалі ззаду галасы, і Рыпіна пазнала галасы Савося і Каўпяля.

— Зьнішчыць як клясу,—казаў раённы, абціраючы хусьцінкаю ўпацелы лоб.—Бо бяз гэтага не правядзем суцэльнае колектывізацыі вёскі. А кулаку дапамагае нэпман з гораду. Дасюль давалі ім спакойна жыць, але досыць!.. Трэба раскулачыць кулака ў вёсцы і яго саюзьнікаў у горадзе. І чым хутчэй організуем колгасы, тым лепей... Тады можам сказаць: мы пабудавалі соцыялізм.

— Хто хоча выказацца—за ці супроць калякціву? падаў голас старшыня.

Адказам маўчанка,—каб муха праляцела, дык чутно было-б.

— Галасую. Хто за калякціў у сяле?

Паднялося адна за аднэй некалькі рук.

— Хто супроць? Ніводнага. Будзем лічыць калякціў з беднякоў і сераднякоў нашага сяла організаваным.

Тады зашыхавала маўклівая дасюль грамада людзей і ціхі гоман прайшоў поверху.

— Цяпер прачытаем сьпіс індывідуальнікаў, якія падлягаюць раскулачваньню і высылцы з раёну—зацьверджаны РЫК'ам.

Над грамадою зноў цішыня, насьцярожная, утоеная.

Старшыня пачаў чытаць, але з першымі-ж прозьвішчамі прарвалася цішыня крыкамі болю, крыўды, азлабленьня.

— Які я кулак... Хто гэта ўпісваў? Чаму нас не папыталі! За што паўпісвалі...

Прыежджы з раёну падняў руку, каб сьцішыць буру галасоў і сказаць, мабыць, нешта. Яго ня ўзяў ніхто на ўвагу. А старшыня, ведаючы, што калі даць цяпер перапыніць сябе, дык сарвецца ўсё, узяў высокі крыклівы тон голасу і адбарабаніў увесь сьпіс.

— Бяз віны пастрадаем, мужчыны! Калі я стаў кулаком? Хто мяне зрабіў ім!

Грамада ўжо рухалася, крычала, вар'яцела. Да старшыні прылезла некалькі чалавек і сярод іх Рыпіна ўбачыла Каўпеля з Савосем. Каўпель падняў угару шапку і крычаў—прасіў слова. Старшыня застукацеў па стале і кіўнуў галавою, што можна. Не дайшоўшы да самага стала, Каўпель закрычаў дзікім голасам, якім, здавалася, ніколі ня крычаў. Касмылеватая барада яго калацілася ад напружаньня.

— Кажуць разумныя людзі, што ёсьць гэта, у сьвяшчэным пісаньні напісана... Калі народ пачне забываць бога, зьявіцца антыхрыст з пяцірогім зьмеем. Доўга будзе зьнішчаць ён народ, пакуль гаспод бог не пакіне цярпець і ня спусьціць на зямлю страшны суд. Глядзеце...

Савось сунуў яму пачак сернікаў. Блізшыя папрыціхалі. Хто слухаў уважна, а хто схіліўся над сталом, на якім Каўпель раскладваў у вядомым яму парадку сернікі.

— Хто пісьменныя—чытайце, што гэта!

— Ле-ни-н... Ленін! Ленін!—крыкнулі галасы ад стала.

— Вось якое імя, людзі! А глядзеце далей. Вось вам тыя самыя пятнаццаць сернікаў, і складваем гэтак... Што выходзіць?

— Зьвязда з рагамі...

— Пяцірогі зьмей выходзіць. Што імя, а што пяцірогі зьмей—гэта адно. Настае згуба народу, людзі.

— Арыштаваць яго!—зароў прыежджы з раёну. Гэта контррэволюцыя...

А грамада паразьбівалася ўжо на кучкі і чуваць быў Савосеў крык:



... засьмяяўся Каупель, ухапіў хлопцаў, пацяг за сабою...

— Няма ў нас кулакоў! Выдумалі кулака!.. Або ўсім у калякціў, або нікому!..

Старшыня пацяг за рукаў прыежджага і сказаў:

— Хадзем у сельсавет... Пасядзімо гадзіну якую, пакурым, пакуль супакояцца, а тады прыдзем канчаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад вечар пры дапамозе і кіраваньні адзінага ў сяле комуністага, крамніка з коопэратыву, сабраўся сход беднаты. Сход быў ня ціхі, але ня доўгі, пасьпешны. Усе выказалі сваё абурэньне сьпісам індывідуальнікаў, у якім палова стаялі сераднякі і адзін бядняк, тымчасам як сапраўдныя кулакі засталіся на баку.

— Хоць-бы той самы Каўпель... Рабочых наймае. Палатак большы за ўсіх плаціць. Малатарня... Арфа... Сячкарня... Зямлі колькі... Коні... Каровы.

— А яго ня ўпісалі.

— Бо ён з сельсаветам за панібрата.

Рыпіна-ж расказала пра ўсё сваё гора, што выцерпела на сваім жыцьці.

— Хутчэй-бы той калякціў. Хоць-бы я сьвет убачыла і людзей... І людзі мяне.

— Таварышы,—сказаў коопэратар, напішам у Райком партыі, што сход быў сарваны кулакамі, што ён ня быў падрыхтаваны, што група беднаты гэтых пытаньняў не абмяркоўвала, а таварыш з раёну выступаў няправільна.

— Праўда!.. Пішы!.. Вось гэта правільна... Ды Савося не забудзь упісаць у сьпіс... Падкулачніка гэтага... Разам з Каўпялём. Вось каго павысельваць трэба. Пішы.

У гэты момант у хату ўвайшоў Савось. Коопэратар паглядзеў на ўсіх і сказаў да яго:

— Тут сход з беднаты,—просім выйсьці з хаты.

— А я што—з буржуазіі?

Яму ў адказ крыкнула Рыпіна:

— Ідзі, арыштант. Чаго валачэшся сюды. Можа, што пуп закопаны каля гэтае няшчаснае мацеры... Дык адкапай сабе яго і ездзь, каб цябе мае вочы ня бачылі і вушы ня чулі! Годзе пакутаваць за цябе.

— Пайшоў падкулачнік!

Савось стукнуў за сабою дзьвярыма.

Пад канец ужо сходу груkнула вакно, зазьвінеўшы разьбітаю шыбаю, і ў хату ўляцеў з кулак вялічынёю камень.

---

Раней існаваў і яшчэ часамі існуе звычай закопваць, па народнаму кажучы, пупы.

Але з таго часу, як адкапаўся пуп Савося, мусіць установіцца звычай адкопваць, таксама па народнаму кажучы, пупы.



# ПАД СЬЦЯГАМ ЛЕНІНА

## (З дакладу т. Сталіна на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б)

З часу XV зьезду прайшло $2^1/_2$ гады. Пэрыод часу—нязначны. А між тым за гэты час адбыліся сур'ёзныя зьмены ў жыцьці народаў і дзяржаў. Калі ахарактарызаваць у двух словах перажыты пэрыод, яго магчыма назваць пэрыодам **пераломным**. Ён быў пераломным ня толькі для нас, для СССР, але і для капіталістычных старонак усяго сьвету. Але паміж гэтымі двума пераломамі існуе карэнная розьніца. У той час, калі для СССР пералом гэты азначаў паварот у бок новага, больш сур'ёзнага экономічнага ўздыму, для капіталістычных старонак пералом азначаў паварот да экономічнага заняпаду. У нас, у СССР, расьце ўздым соцыялістычнага будаўніцтва і ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы. У іх, у капіталістых, расьце крызіс экономікі і ў прамысловасьці і ў сельскай гаспадарцы.

Такі малюнак сучаснага становішча ў двух словах.

Успомніце становішча спраў у капіталістычных старонках два з паловай гады назад. Рост прамысловае вытворчасьці і гандлю амаль ва ўсіх капіталістычных старонках. Рост вытворчасьці сыравіны і харчоў амаль ва ўсіх аграрных старонках. Залаты бліск навокал ПАЗШ, як старонкі самага поўнакроўнага капіталізму. Пераможныя сьпевы аб „квітненьні". Нізкапаклоньніцтва перад долярам Выслаўленьні ў гонар новай тэхнікі, у гонар капіталістычнай рацыяналізацыі. Абвяшчэньне эры „аздараўленьня" капіталізму і вялікай моцнасьці капіталістычнай стабілізацыі. „Усеагульны" шум і гвалт наконт „нямінучае гібелі" старонкі Саветаў, наконт „нямінучага краху" СССР.

У такім стане была справа ўчора.

А які малюнак зараз?

Зараз—экономічны крызіс амаль ва ўсіх прамысловых старонках капіталізму. Зараз—сельскагаспадарчы крызіс ва ўсіх аграрных старонках. Замест „квітненьня"—згаленьне мас і колёсальны рост беспрацоўя. Замест уздыму сельскае гаспадаркі—разбурэньне мільённых мас сялянства. Разбураюцца ілюзіі наконт усемагутнасьці капіталізму наогул, усемагутнасьці паўночна-амэрыканскага капіталізму ў асаблівасьці. Усё слабей становяцца пераможныя песьні ў гонар доляра і капіталістычнай рацыяналізацыі. Усё мацнее пэсымістычнае выцьцё наконт „памылак" капіталізму. А „ўсеагульны" шум аб „нямінучай гібелі" СССР зьмяняецца „ўсеагульным" сыканьнем наконт неабходнасьці пакараць „гэтую старонку", якая адважваецца разьвіваць сваю экономіку, калі навокал пануе заняпад.

Такі малюнак зараз.

Атрымалася якраз так, як гаварылі бальшавікі гады два-тры назад.

Бальшавікі гаварылі, што рост тэхнікі ў капіталістычных старонках, рост вытворчых сіл і капіталістычнай рацыяналізацыі пры вялікай абмежаванасьці жыцьцёвага ўзроўню мільёных мас рабочых і сялян, павінны нямінуча прывесьці да лютага экономічнага крызісу. Буржуазны друк пасьмейваўся з „арыгінальнага прароцтва" бальшавікоў. Правыя ўхілістыя адмежаваліся ад бальшавіцкага прогнозу, замянілі марксыцкі аналіз лібэральнай балбатнёй аб „організаваным капіталізьме". А што атрымалася на справе? Атрымалася так, як гаварылі бальшавікі.

Такія факты.

Пяройдзем да ўнутранага становішча СССР.

У процілегласьць капіталістычным старонкам, дзе пануе зараз экономічны **крызіс і расьце беспрацоўе**, унутранае становішча нашай старонкі прадстаўляе малюнак **узрастаючага ўздыму** народнае гаспадаркі і **хуткага скарачэньня беспрацоўя**. Вырасла і паскорыла тэмпы свайго разьвіцьця буйная прамысловасьць. Узмацнілася цяжкая прамысловасьць. Соцыялістычны сэктар прамысловасьці рухаецца ўперад. Вырасла новая сіла ў сельскай гаспадарцы—саўгасы і колгасы. Калі два гады назад мы мелі крызіс збожжавае вытворчасьці і ў хлебазагатоўчай справе абапіраліся галоўным чынам на індывідуальную гаспадарку, дык зараз цэнтр цяжару перамясьціўся на колгасы і саўгасы, а збожжавы крызіс можна лічыць у асноўным вырашаным. Асноўныя масы сялянства канчаткова павярнулі ў бок колгасаў. Супраціўленьне кулацтва адбіта. Унутранае становішча СССР яшчэ больш замацавалася. Такі агульны малюнак унутранага становішча СССР у даны момант.

Разгледзім конкрэтныя даныя.

Калі ў 1926-27 г., г. зн. да XV зьезду партыі продукцыя ўсяе сельскае гаспадаркі ў даваенных рублёх дасягала 12.370 млн. р., г.-зн. 106,6% ад даваеннага ўзроўню, то ў бягучым 1929-30 г., мяркуючы па ходу разьвіцьця сельскае гаспадаркі, мы будзем мець ня менш 113—114% ад даваеннага ўзроўню. У наяўнасьці няўхільны, хаця і параўнальна павольны рост продукцыі сельскае гаспадаркі ўцалку. Па ўсёй прамысловасьці, як дробнай так і буйнай, улічваючы мукамольную прамысловасьць, мы будзем мець у 1929-30 г. ня менш 180% ад даваеннага ўзроўню. У наяўнасьці нябывала хуткі рост продукцыі прамысловасьці ўцалку.

Грузаабарот на ўсёй чыгуначнай сетцы ў бягучым годзе, паводле ўсіх даных, мы будзем мець ня менш 193% ад даваеннага ўзроўню. Што да новага чыгуначнага будаўніцтва, мы будзем мець, лічачы з 1927-1928 г., павялічэньне чыгуначнае сеткі з 76 тыс. кілёмэтраў да 80 тысяч кілёмэтр., што складае 136,7% ад даваеннага ўзроўню.

Гандлёва-пасярэдніцкі абарот у краіне ў бягучым 1929-30 г. будзе падвоены ў параўнаньні з 1926-27 г. і будзе складаць 202%.

Зводныя балянсы ўсіх нашых крэдытных установаў з 1 кастрычніка 1927 г. і да 1 кастрычніка 1929 году падвоіліся і складаюць 201,1%.

Зводны дзяржаўны бюджэт таксама падвоіўся: у 1929-30 г. ён роўны 204,4% бюджэту 1926-27 г. (12.605 млн. руб.).

Абарот па замежным гандлі ў 1929-30 г., паводле ўсіх даных, будзе ня менш 80% ад даваеннага ўзроўню.

Колькасьць асоб наймовае працы ў нашай краіне ў 1929-30 г. будзе ня менш 13.128.000 чалавек. Колькасьць беспрацоўных

скарацілася параўнальна з мінулым годам больш як на 700.000 чалавек, ці інакш кажучы, больш як на 42%.

Рост народнае гаспадаркі ідзе ў нас не стыхійна, а ў пэўным кірунку, а іменна ў кірунку індустрыялізацыі, пад знакам індустрыялізацыі, пад знакам росту адноснае вагі індустрыі ў агульнай сыстэме народнай гаспадаркі, пад знакам ператварэньня нашае краіны з аграрнае ў індустрыяльную.

Разьвіцьцё нашай народнае гаспадаркі ідзе па шляху індустрыялізацыі. Характарная рыса нашае індустрыялізацыі заключаецца ў тым, што яна ёсьць індустрыялізацыя соцыялістычная, індустрыялізацыя, якая забясьпечвае перамогу абагуленага сэктару прамысловасьці над сэктарам прыватна-гаспадарчым, над сэктарам дробнатаварным і капіталістычным. Вось некаторыя даныя аб росьце капітальных укладаньняў і агуловае продукцыі па сэктарах:

Рост капітальных укладаньняў у прамысловасьць па сэктарах мы маем наступны: абагулены сэктар: у 1926-27 г.—1.270 млн. руб.; у 1929-30 г.—4.275 млн. руб. Прыватна-гаспадарчы і капіталістычны сэктар: у 1926-27 г.—63 млн. руб.; а ў 1929-30 г.—51 млн. руб. Агуловае продукцыі па сэктарох: абагулены сэктар: у 1926-27 г.—11.999 м. р., а ў 1929-30 г.—24.740 млн. руб. Прыватна-гаспадарчы і капіталістычны сэктар: у 1926-27 г.— 4.043 млн. руб., а ў 1929-30 г.—3.310 млн. руб. Адносная вага абагуленага сэктару ў продукцыі буйнае прамысловасьці краіны: у 1926-27 г.—97,7%, а ў 1929-30 г.—99,3%. Адносная вага прыватна-гаспадарчага сэктару ў продукцыі буйнае прамысловасьці краіны: у 1926-27 г.—2,3%, а ў 1928-30 г.—0,7%. Некаторыя таварышы скэптычна глядзяць на лёзунг „Пяцігодку за чатыры гады". Яшчэ зусім нядаўна некаторая частка таварышоў глядзела на нашу пяцігодку, зацьверджаную V зьездам Саветаў, як на фантастыку. А што мы маем на справе, калі разглядаць пяцігодку з пункту гледжаньня яе ажыцьцяўленьня за першыя два гады?

Аб чым гаворыць нам праверка выкананьня пяцігодкі ў яе оптымальным варыянце? Яна гаворыць ня толькі аб тым, што мы можам выканаць пяцігодку за чатыры гады. Яна гаворыць яшчэ і аб тым, што мы можам яе выканаць па цэламу шэрагу галін прамысловасьці за тры і нават за два з паловай гады. Гэта можа здавацца скэптыкам з опортуністычнага лягеру няверагодным. Але гэта—факт, спрачацца за які было-б вельмі глупа і сьмешна.

Калі вылучыць з сельскае гаспадаркі ўцалку асноўныя яе галіны, як, напр., збожжавую гаспадарку, жывёлагадоўлю і тэхнічныя культуры, дык становішча спраў малюецца ў наступным выглядзе: засеўныя плошчы збожжавых культур у бягучым 1929-30 г., паводле ўсіх даных—105,1% даваеннага ўзроўню. Агуловая продукцыя збожжавых культур будзе роўнай 110% даваеннае нормы.

Па галіне таварнай продукцыі збожжавых культур мы далёка яшчэ не дасягнулі даваеннай нормы і будзем адставаць ад яе ў гэтым годзе процантаў на 25. У гэтым—аснова нашых хлебных цяжкасьцяй, якія асабліва абвастрыліся ў 1928 годзе. У гэтым-жа—аснова збожжавае проблемы.

Такі самы прыблізна малюнак адчыняецца, але з больш трывожнымі паказьнікамі, і ў галіне жывёлагадоўлі.

Іншы малюнак дае нам разьвіцьцё тэхнічных культур, якія даюць нам сыравіну для прамысловасьці. Плошча засеву тэхнічных культур у 1930 г. будзе роўнай: па бавоўне 217% ад даваеннага ўзроўню, па лёну—125%, па алейных культурах ня менш як 260% ад даваеннага ўзроўню.

Перад намі, такім чынам, стаяць наступныя проблемы сельскае гаспадаркі:

1) проблема ўмацаваньня становішча тэхнічных культур шляхам забясьпечаньня адпаведных раёнаў дастатковай колькасьцю хлебных продуктаў;

2) проблема ўздыму жывёлагадоўлі і вырашэньне мяснога пытаньня шляхам забясьпечаньня адпаведным раёнам дастатковай колькасьці танных збожжавых продуктаў і кармоў;

3) проблема канчатковага вырашэньня пытаньня аб збожжавай гаспадарцы, як галоўнага пытаньня сельскае гаспадаркі ў даны момант. Выходзіць, што збожжавая проблема зьяўляецца асноўным зьвяном у сыстэме сельскае гаспадаркі і ключам да разьвязваньня ўсіх іншых проблем апошняе.

Выходзіць, што вырашэньне збожжавай проблемы зьяўляецца першай па чарзе задачай у шэрагу іншых проблем сельскай гаспадаркі. Ці магчыма вырашэньне ўсіх гэтых задач на базе дробнае індывідуальна-сялянскае гаспадаркі? Не, не магчыма.

Застаецца адзін шлях, шлях узбуйненьня сельскай гаспадаркі, шлях утварэньня буйных гаспадарак, узброеных сучаснай тэхнікай. Адсюль задача ўтварэньня саўгасаў і аб'яднаньня дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя колектыўныя гаспадаркі, як адзіны шлях вырашэньня проблемы сельскае гаспадаркі ўвогуле, збожжавай проблемы асабліва. На гэты шлях стала партыя.

Мерапрыемствы ЦК у гэтым пытаньні праходзяць па трох лініях: па лініі організацыі і фінансаваньня саўгасаў, па лініі організацыі і фінансаваньня колгасаў, і нарэшце па лініі організацыі будаўніцтва трактараў і сельскагаспадарчых машын і забясьпечаньня імі вёскі праз машына-трактарныя станцыі, праз трактарныя колёны і г. д.

Якія-ж вынікі гэтых мерапрыемстваў?

Засеўная плошча Зернятрэсту ў 1928-29 г. складала 150 тыс. *га*, а ў 1929-30 г. 1.060 тысяч *га*, у 1930-31 годзе будзе складаць 4.500 тысяч *га*, у 1931-32 г. 9.000 *га*, у 1932-33 г.—14.000 тыс. *га*.

Засеўная плошча Саўгасцэнтру: у 1928-29 годзе—430 тыс. *га*, у 1929-30 г.—860 тыс. *га*, у 1930-31 г.—1.800 тыс. *га*, у 1931-32 г.—2.000 тыс. *га* і ў 1932-33 г.—2.500 тыс. *га*.

Засеўная плошча Украсаўгасаб'яднаньня: у 1927-28 годзе—170 тыс. *га*, у 1929-30 г.—280 тыс. *га*, у 1930-31 г.—500 тыс. *га*, а ў 1932-33 г. складзе 720 тыс. *га*.

Засеўная плошча Саюзцукру: (па збожжу): у 1928-29 г.—780 тыс. *га*, а ў 1929-30 г.—820 тыс. *га*, у 1930-31 г. 860 тыс. *га*, у 1931-32 г.—980 тыс. *га* і ў 1932-33 г.—990 тыс. *га*.

Па-першае, гэта азначае, што толькі Зернятрэст будзе мець да канца пяцігодкі столькі засеўнай плошчы, колькі мае зараз уся Аргентына.

Па-другое, гэта азначае, што ўсе саўгасы, разам узятыя, будуць мець да канца пяцігодкі на 1 мільён *га* больш, як зараз мае ўся Канада.

У 1931-32 г. мы павінны былі атрымаць ад новых саўгасаў ня менш 100 млн. пудоў таварнага збожжа. На справе-ж выходзіць, што мы будзем мець ад адных толькі новых саўгасаў звыш 200 млн. пудоў. Атрымліваецца перавышэньне програмы больш як у два разы.

Паводле пяцігадовага пляну мы павінны былі мець агуловай продукцыі збожжавых па саўгасах да канца пяцігодкі 54,3 млн. цэнтнэраў. А на справе мы маем агуловай продукцыі збожжавых ад саўгасаў ужо ў гэтым годзе 28,2 млн. цэнтнэраў, а ў будучым годзе мы будзем мець 71,7 цэнтнэраў. Гэта азначае, што па агуловай продукцыі збожжавых мы выконваем і перавыконваем пяцігодку за 3 гады.

Пяцігодка за 3 гады.

Няхай лапочуць зараз буржуазныя пісакі і іх правапортуністычныя падгалоскі, што нельга выканаць і перавыканаць пяцігодку саўгаснага будаўніцтва за 3 гады.

Што да колгаснага будаўніцтва, то тут мы маем яшчэ больш здавальняючы малюнак. Засеўная плошча колгасаў складала ў 1927 г.—0,8 млн. *га*, у 1928 г.—1,4 млн. *га*, 1929 г.—4,3 млн. *га*, у 1930 г.—ня менш 36 млн. *га*, лічачы яравы і азімавы клін.

Гэта азначае, па-першае, што за 3 гады колгасная засеўная плошча вырасла больш як у 40 разоў. (Аплёдысмэнты). Гэта азначае, па-другое, што ў нашых колгасаў столькі засеўнай плошчы, колькі ў Францыі і Італіі разам узятых. (Аплёдысмэнты).

Аб чым гавораць гэтыя лічбы?

Яны гавораць перш за ўсё аб тым, што агуловая продукцыя збожжавых у колгатах вырасла за тры гады больш як у 50 разоў, а таварная—больш як у 40 разоў.

Мы маем магчымасьць атрымаць у гэтым годзе ад колгасаў больш паловы ўсёй таварнай продукцыі збожжа ў краіне.

Лёсам сельскае гаспадаркі і яго асноўнымі проблемамі ніколі ня будуць кіраваць індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, а колгасы і саўгасы.

Процэс ліквідацыі кулацтва як кляса ідзе ў нас хуткім тэмпам уперад. У краіне ўжо адбыліся такія экономічныя зрухі, якія даюць падставы сьцьвярджаць, што мы здолелі павярнуць вёску на новы шлях, на шлях колектывізацыі, забясьпечыўшы гэтым самым пасьпяховае будаўніцтва соцыялізму ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы.

Мы перавыканалі пяцігадовую програму колгаснага будаўніцтва за 2 гады больш як у $1\frac{1}{2}$ разы. Пяцігодка—за 2 гады.

Ці магчыма з посьпехамі змагацца з клясавым ворагам, не змагаючыся адначасова з ухіламі ў нашай партыі, не перамагаючы гэтых ухілаў? Не, немагчыма. Нельга, бо немагчыма разгарнуць сапраўднае змаганьне з клясавымі ворагамі, маючы ў тыле іх адбіцьцё ў партыі, пакідаючы ў тыле людзей, якія ня вераць у нашу справу і ўсякімі спосабамі імкнуцца затрымаць наш рух уперад. Адсюль няпрымірлівае змаганьне з ухіламі ад ленінскай лініі, як чарговая задача партыі.

Чаму правы ўхіл зьяўляецца зараз галоўнай небясьпекай у партыі? Таму, што ён адбівае кулацкую небясьпеку, а кулацкая небясьпека ў сучасны момант, у момант разгорнутага наступленьня і выкарчоўваньня карэньняў капіталізму, зьяўляецца галоўнай небясьпекай у краіне.

У чым сутнасьць трацкізму?

Сутнасьць трацкізму—у адмаўленьні магчымасьцяй пабудовы соцыялізму ў СССР сіламі рабочае клясы і сялянства нашай старонкі. Капітулянцтва як зьмест, „левыя" словы і „рэволюцыйна"-авантурніцкія замашкі як форма, якая прыкрывае і рэклямуе капітулянцкі зьмест,—вось сутнасьць трацкізму.

А што з сябе прадстаўляюць „левыя" загібы, якія маюць месца ў партыі ў галіне колгаснага руху? Яны зьяўляюцца

некаторай, праўда, несьвядомай спробай адрадзіць у нас традыцыі трацкізму на практыцы, адрадзіць трацкісцкія адносіны да сярэдняга сялянства. Яны зьяўляюцца вынікам тае памылкі ў політыцы, якую Ленін называе „пераадміністраваньнем". Гэта азначае, што некаторыя нашы таварышы, захопленыя посьпехамі колгаснага руху, сталі падыходзіць да проблемы колгаснага будаўніцтва не як будаўнікі, а як адміністратары перажана, дапусьціўшы ў выніку гэтага рад грубых памылак.

Некалькі інакш стаіць справа з пытаньнем аб правым опортунізьме, на чале якога стаялі ці стаяць т. т. Бухарын, Рыкаў і Томскі.

Бяда гэтых правых ухілістых заключаецца ў тым, што, прызнаючы формальна магчымасьць пабудовы соцыялізму ў адной краіне, яны ня хочуць прызнаваць тых шляхоў і сродкаў змаганьня, без якіх нельга пабудаваць соцыялізм. Яны ня хочуць прызнаваць, што ўсямерная разьвіцьцё індустрыі зьяўляецца ключом рэорганізацыі ўсяе народнае гаспадаркі на пачатках соцыялізму. Яны ня хочуць прызнаваць непрымірлівага клясавага змаганьня з капіталістычнымі элемэнтамі і разгорнутага наступленьня соцыялізму на капіталізм. Яны не разумеюць, што ўсе гэтыя шляхі і сродкі зьяўляюцца тэй сыстэмай мерапрыемстваў, без якіх немагчыма ўтрыманьне дыктатуры пролетарыяту і пабудова соцыялізму ў нашай краіне. Яны думаюць, што соцыялізм можна пабудаваць ціхком, самацёкам, бяз клясавага змаганьня, без наступленьня на капіталістычныя элемэнты. Яны думаюць, што капіталістычныя элемэнты самі па сабе няпрыкметна адамруць або ўрастуць у соцыялізм. А дзеля таго, што такіх цудаў у гісторыі ня бывае, дык атрымоўваецца, што правыя ўхілістыя скатваюцца на справе на пункт гледжаньня адмаўленьня магчымасьцяй пабудовы соцыялізму ў нашай краіне. Правыя ўхілістыя на справе спаўзаюць на пункт гледжаньня адмаўленьня магчымасьці ўцягненьня асноўных мас сялянства ў справу пабудовы соцыялізму. Гэтым уласна і тлумачыцца той факт, што свае „бойкі пеўняў" з трацкістымі правыя ўхілістыя звычайна заканчваюць перамовамі з трацкістымі наконт блёку з імі.

Ня можа быць сумненьняў, што перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б поўнае разброеньне рабочай клясы, узброеньне капіталістычных элемэнтаў у вёсцы і нарастаньне шанцаў на рэстаўрацыю капіталізму ў СССР. Вось чаму партыя палічыла неабходным павесьці рашучае і няпрымірлівае змаганьне з правым ухілам. Задача заключаецца ў тым, каб працягваць і надалей няпрымірлівае змаганьне з тымі прымірэнчымі элемэнтамі ў партыі, якія не разумеюць, або робяць выгляд нібыта не разумеюць неабходнасьці рашучага змаганьня на два фронты.

Малюнак змаганьня з ухіламі ў партыі будзе няпоўны, калі мы не адзначым ухілаў у нацыянальным пытаньні, якія ёсьць у партыі.

Гэтыя ўхілы не настолькі прыкметны і напорысты, як „левы" ці правы ўхіл. Іх магчыма назваць паўзучымі ўхіламі. Але гэта яшчэ не азначае, што іх няма. Не, яны ёсьць і, галоўнае, растуць. У гэтым ня можа быць ніякага сумненьня.

У чым сутнасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму ў нашых сучасных умовах?

Сутнасьць ухілу да вялікадзяржаўнага шовінізму заключаецца ў імкненьні абыйсьці нацыянальную розьніцу мовы, культуры, быту; у імкненьні падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і краёў; у імкненьні падарваць прынцыпы нацыянальнага роўнапраўя і паслабіць політыку партыі па нацыяналізацыі апарату, нацыяналізацыі друку, школы і іншых дзяржаўных і грамадзкіх організацый. Ухілістыя гэтага тыпу выходзяць пры гэтым з таго, што калі пры перамозе соцыялізму нацыі павінны зьліцца ў адну, а іх нацыянальныя мовы павінны пературвацца ў адзіную агульную мову, дык ужо надышоў час, каб ліквідаваць нацыянальныя адрозьненьні і адмовіцца ад політыкі падтрымоўваньня нацыянальнай культуры раней прыгнечаных народаў.

Так стаіць справа з ухілам да вялікадзяржаўнага шовінізму. Нятрудна зразумець, што гэты ўхіл адбівае імкненьні аджываючых клясаў панаваўшае раней нацыі вялікарускай вярнуць сабе страчаныя прывілеі.

Адсюль небясьпека вялікарускага шовінізму, як галоўная небясьпека ў партыі ў галіне нацыянальнага пытаньня.

Ухіл да мясцовага нацыяналізму адбівае нездавальненьне аджываючых клясаў раней прыгнечаных нацый, рэжымам дыктатуры пролетарыяту, іх імкненьне адасобіцца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць там сваё клясавае панаваньне. Небясьпека гэтага ўхілу заключаецца ў тым, што ён культывуе буржуазны нацыяналізм, паслабляе адзінства працоўных народаў СССР і грае на руку інтэрвэнцыяністым.

Такая сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму. Задача партыі заключаецца ў тым, каб весьці рашучае змаганьне з гэтым ухілам і забясьпечыць умовы, неабходныя для інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных мас народаў СССР.

Так стаіць справа з ухіламі ў нашай партыі. З „левымі" і правымі ўхіламі ў галіне агульнае політыкі, з ухіламі ў галіне нацыянальнага пытаньня.

Такое наша ўнутранае становішча.

Зараз, калі партыя выйшла пераможцам у змаганьні за генэральную лінію, калі Ленінская лінія нашай партыі перамагае па ўсяму фронту, шмат хто думае забыцца на тыя цяжкасьці, якія стваралі нам у нашай працы ўсе і ўсякія ўхілістыя.

Больш таго, некаторыя абывательскі настроеныя таварышы да гэтага часу яшчэ ня думаюць, што можна было-б абыйсьціся без змаганьня з ухіламі. Няма чаго гаварыць, што гэтыя таварышы зрабілі глыбокую памылку. Ня можа быць сумненьня, што, ня стрымаўшы ўхілістых і не разьбіўшы іх у адкрытай бойцы, мы не змаглі-б дабіцца тых посьпехаў, якімі справядліва ганарыцца наша партыя.

Чаму абавязана партыя гэтым сваім рашучым дасягненьням?

Яна абавязана гэтым дасягненьнем тэй акалічнасьці, што ў сваім змаганьні з ухіламі яна заўсёды вяла прынцыповую політыку, ніколі не апускаючыся да закулісных комбінацый і дыплёматычнага гешэфтмахерства.

Які агульны вывад?

Мы мелі за мінулы пэрыод рад рашаючых посьпехаў на франтах соцыялістычнага будаўніцтва. Мы мелі гэтыя посьпехі таму, што змаглі трымаць высока вялікі сьцяг Леніна.

Калі хочам перамагчы, мы павінны і надалей трымаць вялікі сьцяг Леніна высока, абараняючы яго чыстату і незаплямленасьць.

Такі агульны вывад.

З сьцягам Леніна перамаглі мы ў бойках за Кастрычніцкую рэволюцыю.

З сьцягам Леніна дабіліся мы рашучых посьпехаў у змаганьні за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва.

З гэтым-жа сьцягам пераможам у пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце.

Няхай жыве ЛЕНІНІЗМ.




**Падарунак Вяліка-Брытанскай Комуністычнай Парты рускім комуністым.**



# Наша зьмена

Нарыс ДЗІМЕНШТЕЙНА

Фото Ўл. СЕМЯНЯКІ

ПРАЗ індустрыялізацыю савецкае краіны, праз колектывізацыю нашае тэхнічна і культурна адсталае сельскае гаспадаркі, ня гледзячы на цяжкасьці, мы цьвёрдымі крокамі ідзем да новых соцыялістычных форм жыцьця, мы цьвёрдымі крокамі ідзем да соцыялізму.

Але будаўніцтва соцыялізму вымагае новых людзей, працаўнікоў. Людзей, якія мысьляць па-соцыялістычнаму, яны працуюць іншымі тэмпамі, іншымі мэтодамі.

І гэтыя новыя кадры людзей паступова, хоць і з вялікімі цяжкасьцямі, ствараюцца пад уплывам гэтага новага жыцьця; кадры гэтыя пераапрацоўваюцца ў тэй-жа меры, у якой перапрацоўваецца і само наша жыцьцё.

Зьменьваецца паступова старая тэхнічная інтэлігенцыя, праўдзівей—яе лепшая частка. Яна дапасоўвае веды да справы соцыялістычнага будаўніцтва, яна дапамагае будаваць соцыялізм. З другога боку рабочая кляса вылучае з сваіх шэрагаў новых працаўнікоў, якія вучацца кіраваць краінай, яны кіруюць будаўніцтвам і якія самі будуюць новае соцыялістычнае жыцьцё.

Але гэтага ўсяго мала. Нам ужо цяпер трэба падбаць аб тым, каб сваячасова падрыхтаваць новыя кадры комуністычнае моладзі — кадры, якія і дабудуюць тую будоўлю новага сьвету, якую так пасьпяхова, але яшчэ толькі на-чорна ўзьнялі мы.

Вось чаму работа па комуністычным выхаваньні дзяцей працоўных павінна стаяць на першым месцы. Вось чаму мы з такой любоўю, з такой увагай павінны адносіцца да ўсялякае справы колектыўнага выхаваньня маладога пакаленьня, якое цяпер узрастае, вось чаму мы павінны вітаць організацыю кожнага новага вогнішча комуністычнага выхаваньня нашае моладзі, вогнішча, у якім выпрацоўваецца новы чалавек, вось чаму мы павінны як мага дапамагаць процэсу стварэньня новага чалавека.

* * *

Дом на Кастрычнікавай вуліцы, нумар 18, належыць 3 ЖАКТ'у. Войдзем у гэта памяшканьне, што складаецца з пяцёх даволі прасторных пакояў, дзе на працягу дня зьбіраецца каля шасьцідзесяці дзетак рабочых і служачых, якія жывуць у гэтым ЖАКЦ'е. У першым пакоі, прызначаным для заняткоў музыкай, дзяжурны хлапчук пільнуе парадак. У другім пакоі дзеці вучацца маляваньню, ручной працы, скульптуры, далей–два прасторныя пакоі займае дзіцячая сталоўка і, нарэшце, апошні—пяты пакой, прызначаны для самае малодшае групы, для дзяцей, якія ўмеюць яшчэ толькі поўзаць.

Шмат намаганьняў давялося пакласьці праўленьню і актыву ЖАКТ'у № 3, вялікае яму прышлося правесьці змаганьне, каб адваяваць жыльлёвую плошчу пад гэты дзіцячы прытулак, каб організаваць у сябе сваімі ўласнымі сіламі колектыўнае выхаваньне ў комуністычным кірунку дзяцей сваіх рабочых-кватарантаў. Нарэшце дайшлі свайго. Цяпер бацькі і маткі, якія жывуць у доме № 18 па Кастрычнікавай вуліцы, могуць спакойна выходзіць раніцою на работу—на фабрыкі, на заводы, ва ўстановы. Іх дзеці ня толькі не застаюцца бяз догляду, але і навучацца таму-сяму добраму, карыснаму, патрэбнаму, убяруць у сябе колектыўныя навычкі, з малых год будуць праняты комуністычным духам.

* * *

— Дык ты сябра Мопру?—пытаемся мы ў аднаго з дзяцей.

— Так, сябра Мопру!—горда адказвае нам той. І сур'ёзна, зусім, стала так,—нібы дарослы, дадае:

— Мы зьбіраем грошы, якія дапамагаюць дзецям рабочых за мяжою прахарчавацца тымчасам, як і бацькі і маткі будуць сядзець у буржуазных вастрогах.

А другі бутуз тлумачыць:

— Цётка Капланіха, якая страляла ў нашага Леніна—ня наша цётка: яна злая, яна за буржуяў.

Так растуць, так выхоўваюцца нашы дзеткі,—тыя дзеткі, якім суджана канчаткова дабудаваць соцыялізм, якім накнаваны жыць у час соцыялізму.

Добрая, вялікая справа робіцца ў доме № 18 па Кастрычнікавай вуліцы.

# ПРОЛЕ А

ГЭТА адна з шматлікі
пакрыць усю Савец
савецкай вытворчасы
нібы дэманструючы
зьдзіўляе старых рабочых
цы трансмісій, вы іх ня
шківы. Тое, што на старой
дзін 20 работніц, вырабляе
працэсы работы мэханізава
ны працоўны дзень.



**НА ЗДЫМКАХ:** Зьверху — коцяць калоду ў расьпіловачны цэх. Агульны выгляд электрастанцыі-фабрыкі. Загатоўка каробкаў. Унізе: макальна-сушыльная машына. Рэзка калодаў на адпаведныя памеры. Варстаты, якія вырабляюць каробкі і канвэйер.





# ЛТАРСКАЯ ПЕРАМОГА

новых магутных фабрык, якія за пяцігодку павінны Беларусь. Прыгожыя, новыя мэталічныя шасьцярні выцягнуліся доўгай істужкай па фабрычных карпусох гутны тэмп і рэальнасьць нашай пяцігодкі. Асабліва асьць работы новай фабрыкі. Ня шукайце на фабры- ойдзеце, бо яны ўнізе, у праходах. Там валы, пасы, „Чырвонай Бярэзіне“ ў Нова-Барысаве робяць за 8 га- на новай ф-цы адна машына. Тэхніка паўсюды. Усе і дало магчымасьць перавесьці фабрыку на 7-гадзін-

Ціха шапоча з лязом нажа белы, добра прапараны чурбак. Гэта ён пачынае свой падарож для таго, каб прайшоўшы ўсе этапы даць урэшце патрэбную нам сярнічку. 15.000 каробкаў сярнічак у гадзіну можа даць фабрыка. Абавязак рабочых пры ўдарніцтве і соцыялістычным спаборніцтве даць гэтую норму. Поруч з фабрыкай высока ўзьняліся карпусы электростанцыі, якая забясьпечвае таннай электраэнэргіяй не толькі фабрыку, але і іншыя Нова-Брысаўскія прадпрыемствы і рабочыя пасёлкі.









# ТАНУ-ТУВА

ВЫЗВАЛЕНЫ ад падвойнага ўціску расейскага і кітайскага імпэратараў, тувінскі народ з вялікай энэргіяй узяўся за будаўніцтва свайго нацыянальнага і дзяржаўнага жыцьця.



Стварыўшы Народную рэспубліку, тувінцы ўрэзалі „апэтыты" сваіх уласных эксплёататараў і такім чынам атрымалі мажлівасьць прыцягнуць шырокія народныя масы да ўдзелу ў кіраўніцтве дзяржавай. Лепшым прыяцелем сваім тувінцы лічаць Савецкі Саюз, які ў цяжкія часы для насельніцтва Тану-Тувы дапамог ім скінуць ярмо сваіх і чужых прыгнятальнікаў. Ня лёгка ім гэта далося. Народ, які яшчэ і дагэтуль ня вылез з фэўдальных, родавых (хошунскіх) узаемаадносін, з вялікімі цяжкасьцямі выходзіў на вольны шлях самастойнага дзяржаўнага існаваньня.

Пры дапамозе савецкіх дарадцаў тувінцы ідуць ад посьпеху да новых посьпехаў у справе палітычнага і эканамічнага ўзмацненьня дзяржавы, а таксама і культурнага адраджэньня свайго народу.

На здымку зьверху ўніз:

1) жанчыны—члены хошунскага савету, 2) Старшыня Савету Міністраў ТНР — Камчыгал (зьлева) і Старшыня малога курулдана — Дондук, 3) Пасяджэньне хошунскага савету і 4) Ламы на пасяджэньні хошунскага савету.

# КРАІНА ПАЛЯЎНІЧЫХ І ПАСТУХОЎ

НАРЫС Л. СУР-ОТОФА

Далёка на ўсходзе, у самым цэнтры Азіяцкага сухазем'я, за беласьнежнымі вяршынямі няпрыступных Саян, знаходзіцца маленькая прыязная да СССР дзяржава—Тувінская Народная Рэспубліка.

Тэрыторыя Тувы належыць да старадаўніх геолёгічных стварэньняў на зямной кулі. Гэтая тэрыторыя калісь уваходзіла ў склад сушы архэйскай (першаістай) эры, калі ня было яшчэ ніякага жыцьця на зямлі, а хвалі першабытнага пустыннага мора з грукатам абмывалі пустынныя плошчы, толькі што народжаных матэрыкоў.

Багатая гісторыя Тувы, як і наогул багатая гісторыя ўсёй монгольскай расы. Разам з Чынгіс-Ханам, яна ўладала некалі больш чым паловай усяго сьвету, разам з усімі монголамі яна больш паўтысячы год таму назад страціла сваю дзяржаву і культуру, калі пераможана была Расіяй і Кітаем. І падобна таму, як на працягу шмат год сама Монголія была падзелена на аўтаномную і ўнутраную, гэтак была падзелена і тэрыторыя Тувы: адна, большая частка ўваходзіла ў склад Кітаю, а другая доўгія гады заставалася спрэчнай: рабаваў кітайскі імпэратар, рабаваў расійскі імпэратар. Абодва бралі даніну і таму тувінцы зваліся „двуданьнінцамі“.

Уся гэта Рэспубліка знаходзіцца ў лагчыне між паўднёвымі адгор'ямі Саянскіх гор—горнай сыстэмы Танну-Ола,—на плынях рэк Вялікага і Малага Енісеяў. На сваёй параўнача невялікай тэрыторыі—прыблізна 150.000 *кв. км*, Тува мае вельмі рознастайную прыроду, валадае шматлікімі прыроднымі багацьцямі, расьлінным і жывёльным сьветам і адзначаецца рознастайным і характэрным бытам жыхароў, якія яе насяляюць.

Клімат Тувы контынэнтальны. Неба блакітнае, блакітнае і глыбокае, глыбокае. Глядзіш у яго і ўсёй істотай сваёй адчуваеш, што яно бяздоннае. Дзе-ні-дзе па гэтым неабдымным блакітным полі раскіданы яскрава белыя дзівоснай формы воблакі. Яны стаяць і ня рухаюцца, нібы зачараваныя бляскам і зьзяньнем ліпнёвага дня. Па баках, ля небасхілу ламаная лінія гор. Там высока ўзьнімаюцца нейкія гострыя пікі і скалы, там сінеюць цяжкія масывы нейкіх баечных руін.

Шмат якія горныя схілы баечна прыгожыя, асабліва ўвосень пры заходзе сонца, у асьляпляючым убраньні вогненна-жоўтых мадрын і чорна-зялёных елак. Трапляюцца і кедравікі і прыбраныя беластвольныя бярэзьнікі. Тува багата на мінэральныя крыніцы. Дзе-ні-дзе нават створаны прымітыўныя курорты—аршаны, куды ўлетку прыяжджаюць мясцовыя жыхары: тут яны жывуць у палатках і юртах, прымаюць нават цалебныя ванны ў груба выкапаных ямах.

Знаходзячыся паміж двума імпэрыямі тувінцы (раней урянханцы, ці сойоты) увесь час імкнуліся вызваліцца ад эконамічнай залежнасьці сваіх суседзяў. З даўніх часоў гэты край вабіў да сябе расійскіх і кітайскіх гандляроў, якія конкуравалі між сабой у абменным гандлі з тутэйшым малакультурным насельніцтвам. Краіна—клясычнага жывёлаводства і зьверабойства пры абсолютнай адсутнасьці ня толькі прамысловасьці, але і земляробства шмат пакутвала ад зьдзекаў больш „культурных“ гандляроў, што прыяжджалі з Расіі і Кітаю і гвалтоўна рабавалі тутэйшае насельніцтва. Больш таго, бывалі выпадкі, калі рускія пагранічныя ўлады, пад формай падаткаў нападалі на стады коняй і ўганялі іх да сябе. Усё гэта вельмі мала спрыяла для добрых адносін з боку тувінцаў да расійцаў.

І ў 1918-19 г. г. калі так званы Урянхайскі край—сучасная Тува—была арэнай барацьбы паміж „чырвонымі“ і „белымі“, кітайцы добра выкарысталі гэты момант, організавалі невялікі кітайска-монгольскі атрад, нацкавалі мясцовых сайотаў супроць расійскіх колёністых і ў выніку—шмат расійцаў было забіта і цэлы рад мясцовасьцяй і заімак былі спалены і зруйнаваны.

І толькі ў 1924 г., пасьля поўнага зьнішчэньня белагвардзейскіх банд барона Унгерна, палкоўніка Бакіча, есаула Валогова і іншых, з якімі вялі барацьбу партызанскія атрады т. т. Краўчэнка, Шчацінкіна, Савіцкага і Кочатава, а таксама атрады Чырвонай арміі,—тувінцы атрымліваюць поўную незалежнасьць і ствараюць самастойную дзяржаву, у якой вышэйшая ўлада належыць „Вялікаму Хурулдану“—зьезду Народных Прадстаўнікоў, а агульнае кіраўніцтва справамі—Савету Міністраў.



Старое і новае: Ламы каля мотоцыклету

Гаварыць аб клясавым падзеле грамады, у гэтай краіне першабытнага жывёлаводства і зьверабойства можна надзвычайна цяжка. Тут яшчэ далёка ня зьнішчаны падзел на саслоўі, які зьяўляецца характарнай адзнакай фэўдальных адносін. Дагэтуль часта яшчэ можна сустрэць багатых князькоў, якія маюць багата чэлядзі, а самі цэлымі днямі нічога ня робяць. Гультайства гэтых князькоў даходзіць да таго, што лёкаі кладуць ім ежу ў рот. Гэткая рэзкая розьніца ў маемасным стане насельніцтва, нават у гэткай фэўдальнай краіне спрыяла некатораму клясаваму падзелу, які асабліва выявіўся тады, як багатыя падтрымлівалі кітайцаў і расійскіх белагвардзейцаў, а бедната падтрымлівала партызан і Чырвоную армію.



У факторыі Дзяржгандлю ў Кызыў-хото. Купля хутраў

Вялікі культурны ўплыў на тувінцаў увесь час рабілі монголы; яны-ж перадалі ім сваю пісьменнасьць і дагэтуль офіцыйнай мовай у краіне зьяўляецца монгольская. Задоўга да гэтай культуры,—насаджанай ламамі—монгольскімі папамі, тут існавала свая культура, сьляды якой трапляюцца па ўсім краі ў выглядзе помнікаў, рэшткаў абвадняльнай сеткі і шашы.

Адзін з гэткіх шляхоў, які пабудаваны яшчэ ў часы Чынгіс-Хана, захаваўся і да нашых дзён.

Курганы, рэшткі ўмацавальняў і рэчы ўжытку, якіх багата можна знайсьці ў зямлі, сьведчаць аб тым, што ў тувінцаў

# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ



Днепрабуд упарта дэмагаецца перамены сваёй назвы на Днепральстан. Тое, што дагэтуль было праэктам, з кожным днём усе больш выразна ператвараецца ў магутную жалеза-бэтонную форму. На здымку: Агульны панарамны выгляд сярэдняй пратокі.



Новая электрастанцыя імя Комінтэрну ў Грозным на 10.000 кілёват.



Новая цэнтральная электрычная станцыя ў Арэхава-Зуевым.





Гідро-электрастанцыя „Чырвоны Кастрычнік" у Ленінградзе дасьць электраэнэргію гораду, а таксама „Чырвонаму Пуцілаўцу" і іншым буйным вытворчым волатам. Зьверху — Агульны выгляд станцыі. Зьнізу — Від на будаўніцтве станцыі.

# ЛІПНЁЎСКІЯ ДНІ Ў ПЕТРАГРАДЗЕ

**Нарыс Г. РУГЕР**

Часовы ўрад пасьля лютаўскае рэволюцыі 1917 г. кіраваў краінаю і кіраваў, вядома, у інтарэсах буржуазіі. Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў—другая як-бы ўлада у краіне—засядаў, „протэставаў", голасна заяўляў усюды, усім і кожнаму, што ён стаіць „на варце заваёў лютага", што ён падтрымоўвае ўрад Мілюковых і Гучковых „толькі з большага". Але па прычыне таго, што ў той час кіраўнічая большасьць у саветах была не на баку бальшавікоў, па прычыне таго, што саветы тады былі цалкам у руках меншавікоў і социял-рэволюцыянэраў—ад таго і саветы тады ішлі на повадзе ў буржуазіі, „протэстуючы" толькі для вачэй, а па сутнасьці памагаючы буржуазіі, каб захаваць за сабою ўсю поўнату ўлады ў краіне.

А рэволюцыя між тым ішла і разьвівалася ў сваю чаргу. Прыезд тав. Леніна з-за мяжы, красавіцкая конфэрэнцыя партыі бальшавікоў, дзе быў пакладзены канец усялякім хістаньням, дзе была выпрацавана ясная і выразная пляцформа, пасьля якое быў узяты рашучы курс на заваёву давер'я рабочых мас—усё гэта падняло аўторытэт бальшавікоў у рабочых масах, усё тэта ў вельмі значнай ступені пахіснула аўторытэт меншавікоў і эсэраў, які да апошняга часу яшчэ быў у рабочых масах. Але ўсё-ткі меншавіцка-эсэраўскія саветы, да падзей 3-5 ліпеня, карысталіся вельмі значным аўторытэтам у вачох рабочых і асабліва ў вачох сялянскіх мас, ім усё яшчэ верылі, на іх усё яшчэ спадзяваліся. Вось чаму бальшавікамі і быў выкінуты ў той час лёзунг: уся ўлада саветам—ці то меншавіцкім, ці то эсэраўскім. Тады бальшавікі спадзяваліся, што пасьля пераходу поўнасьцю ўлады ў рукі саветаў, можна будзе шляхам бліжэйшых перавыбараў атрымаць у саветах большасьць і тым самым захапіць уладу ў свае рукі.

Рэволюцыйная барацьба, што разгортвалася ў краіне, і асабліва падзеі 3—5 ліпеня 1917 г. у Петраградзе, ясна паказалі, што надзеі на адносна мірны захоп улады пролетарыятам трэба пакінуць, што ўладу гэтую рабочай клясе давядзецца браць са зброяю ў руках, на барыкадах.

* * *

А імпэрыялістычная вайна—барацьба дзьвёх груп капіталістых за рынкі збыту, за „права" эксплёатацыі колёніі—цягнулася. Вызваленыя ад амаль бязьдзейнага ў той час расійскага фронту—нямецкія войскі націскалі ў Фляндрыі, у Вогезах, у Шампаніі і пад Суасонам. Саюзьнікам, г. зн. буржуазным урадам Францыі, Англіі, Італіі і Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў вельмі не падабалася баявая бязьдзейнасьць расійскага фронту. У іхных інтарэсах было пачаць тады—менавіта ўлетку 1917 году—наступленьне расійскіх армій на немцаў. З другога боку расійская буржуазія, цесна зьвязаная з заходняю буржуазіяй, таксама мела вялікую зацікаўленасьць, каб працягваць вайну „да пераможнага канца", бо, па-першае, мела надзею пажывіцца на гэтай перамозе, а па-другое, разьлічвала ўдачлівым наступленьнем на фронце замацаваць свае політычныя позыцыі ўнутры краіны.

Пачынаецца агітацыя, каб працягваць вайну, каб наступаць на фронце. Утвараюцца ўсялякія „легіоны гонару", „батальёны сьмерці", жаночыя і афіцэрскія атрады... На фронце аднаўляецца сьмертная кара за дэзэртырства, за бальшавіцкую агітацыю непадпарадкаваньня, — сьмяротная кара адмяняецца ў першыя дні лютаўскага перавароту. Ужываюцца і іншыя мэтоды ўзьдзейнічаньня на салдат. Да прыкладу, салдатам гаварылася, што тыя з іх, якія адмовяцца біцца на фронце—будуць пазбаўлены права голасу пры выбарах ва Ўстаноўчы сойм, будуць пазбаўлены права на зямлю. Праўда, зямля тады яшчэ была ў руках абшарнікаў, праўда, пры панаваньні буржуазіі, наўрад ці атрымала-б сялянства тую зямлю бяз выкупа. Але ўсё-ж такая пагроза пазбаўленьня зямлі шмат каму была непажаданаю. Шмат дзе дасягнула свае мэты.



Поруч з панаваньнем грамадзкае думкі да наступленьня на фронце ўрад Керанскага падняў шалёнае цкаваньне на бальшавікоў, на членаў цэнтральнага камітэту бальшавіцкае партыі. Бальшавікоў абвінавачвалі ў здрадзе радзіме, у шпіёнажы на карысьць Нямеччыны. Іх абзывалі ў буржуазных газэтах агентамі Вільгэльма, агентамі нямецкага генэральнага штабу. Большасьць адказных таварышоў былі арыштаваны, сядзелі ў турмах, чакаючы суда над сабою. Другія, як тав. Ленін і Зіноўеў, прымушаны былі хавацца ад прасьледваньняў буржуазных агентаў.

І ўсё такі, ня гледзячы на ўсю тую злосную, антыбальшавіцкую агітацыю, рабочая кляса Петраграду, як і петраградзкі гарнізон, усё больш і больш пранікаліся бальшавіцкімі ідэямі, яны ўсё больш і больш у сваіх сымпатыях пераходзілі на бок бальшавікоў. Яскравым доказам гэтага можа служыць маніфэстацыя, організаваная 18 чэрвеня ў Петраградзе саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Маніфэстацыя гэта, па замыслу меншавіцкае і эсэраўскае верхавінкі савету, павінна была адбывацца пад лёзунгам адзінага фронту з буржуазіяй, павінна была паказаць, што расійскі народ падтрымоўвае Керанскага, што ён за вайну да пераможнага канца.

І вось з гэтае самае, імі організаванае дэмонстрацыі, атрымоўваецца вялікі конфуз меншавікоў і эсэраў петраградзкага савету. Пераважная большасьць рабочых і салдат выходзяць на дэмонстрацыю з бальшавіцкімі лёзунгамі. Дэмонстрацыя, організаваная меншавікамі і эсэрамі, воляю рабочых і сялянскіх мас, робіцца на $^{9}/_{10}$ ярка-бальшавіцкаю.

А з фронту таксама ішлі весткі ня вельмі прыемныя для меншавікоў, эсэраў і буржуазіі. Задуманае 18 чэрвеня Керанскім наступленьне на фронце, ня гледзячы на шматлікія і зусім непатрэбныя чалавечыя ахвяры—з ганьбаю праваліліся не дасягнуўшы задуманае мэты.

* * *

Непасьпяховае наступленьне на фронце, бальшавіцкі характар выступленьня 18 чэрвеня—устрывожылі капіталістых, меншавікоў і эсэраў. Па горадзе (і ня толькі сярод абывателяў) пачалі хадзіць упартыя чуткі пра бальшавіцкае выступленьне, концэнтрацыю атрадаў чырвонае гвардыі, пра рашэньне нямецкага камандаваньня, каб скарыстаць выступленьне „сваіх агентаў" для окупацыі Петраграда. Гэтыя чуткі, што знарок распушчаліся рознымі цёмнымі элемэнтамі з асяродзьдзя нездаволеных нават лютаўскай рэволюцыяй,—монархістых—паўзьлі па горадзе, насявалі непакойнасьць, падымалі паніку...

Не драмала і ваеннае камандаваньне. У запасных батальёнах гвардзейскіх палкоў, якія стаялі ў Петраградзе, адбываліся нарады камандзіраў палкоў з афіцэрамі, распрацоўваўся падрабязны плян узброенага задушэньня будучых „непарадкаў". У ротах і батальёнах тэрмінова складаліся сьпіскі „асабліва неблаганадзейных" у політычным сэнсе салдат, прычым усіх гэтых салдат як-бы выпадкова запісвалі ў сьпісы маршавых рот, каб адпраўляць іх з бліжэйшымі эшалёнамі калі не на перадавыя позыцыі, то на ўсякім выпадку далей ад Петраграда. Характэрна, тое, што старшыні шмат якіх палкавых камітэтаў (тады ў большасьці або меншавікі, або эсэры) ня толькі не пярэчылі такім, у сваім чыне, чорным сьпіскам, а наадварот — вельмі часта дапамагалі іх складаць.

А маса салдат між тым жыла ўжо іншымі інтарэсамі, ішла ўжо за другімі правадырамі і кіраўнікамі.

* * *

Аднойчы (справа адбываецца ў канцы чэрвеня) на пасяджэньне салдацкага камітэту аднаго з палкоў Петраградзкага гарнізону з Кронштату прыехалі два дэлегаты-матросы, якія запрапанавалі камітэту, у цесным контакце з бальшавіцкаю партыяй, узяцца за організацыю рашучае барацьбы супроць расійскае будоўлі. Яны гаварылі пра здрадніцкую ролю „социялістага" Керанскага, яны гаварылі пра тое, што трэба зараз-жа спыніць крывавую вайну, што зямлю трэба перадаць сялянам, а ўсю поўнасьць політычнае ўлады ў краіне—пролетарыяту ў асобе яго савету. І хоць прапанова матросаў была адхілена камітэтам запаснага палка, які складаўся галоўным чынам з меншавікоў і социялістых-рэволюцыянэраў—аднак па бурных аплёдысмэнтах прысутных на пасяджэньні салдат, якімі яны віталі кожнае слова бальшавіцкіх дэлегатаў — можна было

бачыць на чыім баку была ўжо ў канцы чэрвеня шэрагавая салдацкая маса.

Успамінаецца мне яшчэ адзін мітынг, арганізаваны ў другой вайсковай частцы Петраградзкага гарнізону. Мэта гэтага мітынгу была—угаварыць салдат ісьці на фронт, угаварыць іх працягваць імпэрыялістычную вайну „да пераможнага канца". Выступалі на гэтым мітынгу і афіцэры палка, і прадстаўнікі часовага ўраду, і лідары самых рознастайных буржуазных палітычных партый. Усе яны гаварылі пра адно і тое самае: што гонар Расіі патрабуе, каб працягваць вайну, што рэволюцыйная Расія „ня мае права, кідаць сваіх саюзьнікаў на лёс, што мы зьвязаны ўмовай" і г. д. Салдаты роўнадушна лузалі семачкі, слухалі ўсіх гэтых далёкіх ім паноў і толькі цішком сьмяяліся з усіх гэтых чужых ім заклікаў.

— Бач, чаго захацелі—гаварылі яны,—мала яшчэ мы свае крыві за іх у гэтыя тры гады пралілі.

Але вось на сцэну, апошнім па ліку, вышаў адзін з шэрагавых салдат бальшавік Уткін. Няскладна гаварыў таварыш Уткін, але яго простыя словы пра жахі, пра ўсю бязглузьдзіцу працягу вайны, адразу знайшлі жывы водгук у сэрцах многіх сотняў салдат.

—Далоў вайну, няхай жывуць саветы!—крычалі салдаты, магутнымі апл̈ёдысмэнтамі праводзячы Уткіна з трыбуны.

* * *

А падзеі ішлі сваею чаргою. Другога чэрвеня ўвечары адбылася аграмадная дэмонстрацыя ратнікаў другога разраду. Барадатыя, саракагадовыя сяляне, узятыя апошнім наборам на ваенную службу—з плякатамі і чырвонымі сьцягамі ішлі да Таўрычаскага палацу, патрабуючы ад ураду, каб іх распусьцілі па хатах. На другі дзень, 3 чэрвеня другаразраднікаў каля Таўрычаскага палацу зьмянілі колёны дэмонстрантаў рабочых і салдат Петраградзкага гарнізону.

Яны патрабавалі ўжо адстаўкі часовага ўраду і перадачы ўсяе ўлады саветам, яны патрабавалі канца вайны і міру з немцамі. Нянавісьць і злосьць салдат на буржуазных міністраў у той дзень была такая вялікая, што яны прабавалі нават падняць на штыкі „сялянскага" міністра Чарнова, якога ў гэты дзень толькі выпадак выратаваў ад сьмерці.

Здавалася-б савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў павінен быў пайсьці насустрач жаданьням рабочых і салдацкіх мас, павінен быў-бы вітаць гэтае давер'е. У рэчаіснасьці-ж вышла зусім іншае. Галавары, што засядалі ў гэты час у саветах—меньшавікі і эсэры ня толькі не пайшлі насустрач жаданьню мас, ня толькі ня ўзялі ўсяе ўлады ў свае рукі, але яны ўвайшлі ў цесны контакт з буржуазіяй. Яны разам з гэтаю буржуазіяй абурыліся ўсімі сродкамі на рэволюцыйна настоеных рабочых і салдат.

Тры дні цягнулася бойка на вуліцах Петраграду. На скрыжаваньнях вуліц каля вакзалу, каля Таўрычаскага палацу будаваліся барыкады, грымелі стрэлы, лілася рабочая і салдацкая кроў. Па горадзе з чырвонымі сьцягамі хадзілі шматлікія рабочыя дэмонстрацыі, якія атакоўваліся казакамі Керанскага, шэрагі якіх паліваліся са стрэх цэркваў кулямётным агнём.

К вечару 5-га ліпеня паўстаньне Петраградзкіх рабочых і салдат гэтак-жа нечакана і скончылася, як нечакана і ўзьнікла. З боку здавалася, што гэтае паўстаньне задушана сіламі „парадку", што як-бы і сапраўды на той раз „перамога" засталася на баку часовага ўраду. Але гэта толькі здавалася. У крывавыя дні 3—5 ліпеня рабочыя і салдаты чырвонае сталіцы сарвалі канчаткова хлусьлівую маску з твару меншавікоў і эсэраў. У крывавыя дні 3—5 ліпеня нават сьляпому і глухому стала зразумелым, што мірнага пераходу ўлады ў рукі пролетарыяту быць ня можа, што пролетарыяту неабходна рыхтавацца да ўпартае і крывавае барацьбы за гэтую ўладу. Поруч з гэтым, пасьля крывавых ліпнёўскіх падзей мяняецца ў вядомай ступені і тактыка бальшавіцкае партыі. Лёзунг „ўся ўлада саветам" на час (да таго часу пакуль у саюзах пануюць бальшавікі і эсэры) зыходзіць з парадку дня. Ён замяняецца лёзунгамі нізрынуцьця дыктатуры буржуазіі, ён замяняецца лёзунгам бязьлітаснае барацьбы за аднаўленьне дыктатуры пролетарыяту ў краіне.



* * *

З ранку 6 ліпеня пачалася „ліквідацыя" часовым урадам петраградзкага ліпнёўскага паўстаньня, пачаліся самыя жорсткія рэпрэсіі ў адносінах да бальшавікоў, да рэволюцыйных рабочых і салдат. Шарэнгі салдат, якія часова яшчэ заставаліся (усяго на 4 месяцы) „вернымі" буржуазнаму ўраду, стаялі на галоўных пунктах гораду, сунімаючы кожны аўтомобіль, абшукваючы прахожых і правяраючы дакуманты. Па ўсім Петраградзе ішла генэральная аблава на бальшавікоў, якіх казакі і добраахвотнікі—буржуа арыштоўвалі і адводзілі ў камісарыят міліцыі. Але дзякуючы таму, што сярод міліцыянэраў было ў гэты час таксама шмат бальшавікоў, часта здаралася, што арыштаваных бальшавікоў міліцыянэры адпускалі на волю.

А з фронту, барабанячы калёсамі па вуліцах Петраграду, ішлі выкліканыя Керанскім войскі на ахову сталіцы. Але гэтыя войскі таксама ня доўга заставаліся вернымі буржуазіі. Акунуўшыся ў ліхаманкавую насычаную рэволюцыйнаю барацьбою атмосфэру Петраграду, гэтыя войскі таксама вельмі хутка „разлажыліся", перайшоўшы большай часткаю на бок барацьбітоў за сваю ўладу сталічнага пролетарыяту.

Так скончылася ліпнёўскае паўстаньне ў Петраградзе—паўстаньне, якое было толькі спробаю сіл, толькі генэральнай рэпэтыцыяй будучага Чырвонага Кастрычніка.

# КОЛГАС У ПОЛІ



Выйшлі на работу ў вялікдзень.



беспрацоўе, шалёна атакуюць Макдональда і Томаса, але як справа даходзіць да конкрэтных мер барацьбы з крызісам, асабліва яскрава выяўляецца бясьсільле галоўнай палітычнай партыі ангельскага імпэрыялізму. У гэтых радох пачынаюцца сур'ёзныя разнагалосьсі: лёрды Бівэрбук і Ротэрмір будуюць утопічныя пляны згуртаваньня, на шматкі разадранай, імпэрыі ў адзіную экономічную сыстэму адгароджаную ад усяго астатняга сьвету мытнымі сьценамі. Болдуін не адважваецца цалкам прыняць гэтую плятформу і высоўвае палавінны лёзунг: наладзіць усенародны рэфэрэндум аб увядзеньні мытаў на неімпэрскія спажыўныя продукты. Чэрчыль, выказваючы таемныя думкі сваіх цьвёрдалобых колег, патрабуе рашучага скарачэньня социяльнага страхаваньня і каб перакласьці ўвесь цяжар крызісаў на плечы рабочае клясы.



Лібэралы ў парляманце займаюцца дэмагогічнай крытыкай Макдональда, а па-за кулісамі вядуць з ім перамовы аб увядзеньні пропорцыянальнай выбарчай сыстэмы. Каб прымусіць Макдональда ісьці на ўступкі, яны ў часе галасаваньня ў парляманце напамінаюць яму, што бяз іх падтрыманьня ён аніводнага дню ня зможа быць на чале ўлады.

„Кіруючая“ „рабочая“ партыя прадэмонстравала перад рабочай клясай сваё поўнае палітычнае банкруцтва. Шчодрыя перадвыбарчыя абяцаньні засталіся абяцаньнямі. Томас, які раней паказваў вялізарныя схэмы барацьбы з беспрацоўем, цяпер немачна разводзіць рукамі і „пацяшае“ мільёны беспрацоўных і членаў іх сямействаў тым, што яны не ў адзіноце, што ў іншых капіталістычных краінах рабочая кляса таксама галадуе. Як быццам сусьветны крызіс—зьява ледзь ці не астрономічная ня зьвязаная з гаспадараньнем буржуазіі і яе прыказчыкаў, накшталт Томаса. Ва ўсім арсэнале гэтага каралеўскага міністра па справах беспрацоўя застаўся толькі адзін радыкальны сродак барацьбы з крызісам—агітацыя за тое, каб ангельскія жанчыны пачалі насіць даўгія спадніцы і сукенкі і тым самым дапамагчы ланкашырскай тэкстыльнай прамысловасьці.

У сваёй апошняй прамове ў гор. Дэрбы Томас выступіў з гэткай прапановай:

— Лэдзі Англіі! Прэч кароткія спадніцы! Хто любіць „старую вясёлую Англію“—скіньце кароткія сукенкі. Адзеньце доўгія, гэтак як зрабіла герцагіня Іёркская на летніх урачыстасьцях у Букінгэмскім палацы. Каб хвост цягнуўся аж да самай зямлі, і тады Англія будзе выратавана.

Томас перад усімі выстаўляе сябе на сьмех. З яго сьмяюцца консэрватары, сьмяюцца лібэралы. Зусім адкрыта высьмейваюць яго таварышы па рабочай партыі, апранаючыся ў „левую“ вопратку. На паседжаньні парляманту 19 мая прадстаўнік гэтай, таксама імпэрыялістычнай рознастайнасьці, Кірквуд, крытыкуючы палітыку ўраду ў галіне беспрацоўя, заявіў: „Гара радзіла пацука. Калі ўрад разумее, што нічога ня можа рабіць, хай убярэцца, і як мага хутчэй!“ Другі „левы“ леборысты, член парляманту Уайд, на зьезьдзе незалежнай рабочай партыі ў Бірмінгаме скардзіўся на тое, што „некаторыя социялісты ў парляманце хочуць быць больш капіталістычнымі, чымся самі капіталістыя“. І справа нават даходзіць да таго, што „левая“ фракцыя паграджае свайму прэм'еру вотумам недавер'я і разломам партыі.

Шчырасьці ўсіх гэтых Кірквудаў і Уайдаў—грош цана ў кірмашны дзень. Яны, як больш дыплёматычныя дэмагогі нават больш небясьпечныя за грубых Томасаў. Але той факт, што гальнізаваны труп незалежнай рабочай партыі пачынае рухацца, сьведчыць аб тым, што на яго ўплывае энэргія, якая вылучаецца лявеючай рабочай клясай. Масы прыходзяць у рух. А гэта для капіталістых **с а м а я** страшная пагроза.

А шчасьце было гэтак блізка! Чакалі, спадзяваліся. Колькі надзей на Канаду ўскладалі.

К а н а д а пачне ангельскі вугаль купляць і самыя буйныя кадры беспрацоўных работу атрымаюць.

Раптам: і тут савецкая пропаганда.

Мала гэтым саветам лістоўкамі ангельскіх рабочых агітаваць, дык яны яшчэ ўздумалі пропагандаваць вуглем. Сэр Джэмс Джэрмэн у газэце „Вэстэрн Мэйль энд Саут Уэльс Ньюс“ у артыкуле „Пагроза з боку савецкага гандлю“ сыходзіць сьлязамі з прычыны савецкай вугальнай пропаганды.

„Вялікабрытаніі паграджае выклік Савецкага Саюзу... Расійцы рашылі вывезьці вялізарныя партыі вугалю на рынкі, на якія з надзеяй пазіралі ангельскія экспортэры... Вялізарныя партыі вугалю накіроўваюцца ў міжземнаморскія парты, у мэтах заўзятай конкурэнцыі з ангельскім вуглем. Паўднёвы Уэльс ужывае ўсе захады для таго, каб павялічыць свой вываз вугалю ў Канаду... Цяпер, аднак, савецкі ўрад паслаў шмат антрацыту ў Канаду і Амэрыку... Пяцігадовы плян прадугледжвае пабудову вялізарных 13 шахтаў у Данецкім басэйне, аднаўленьне 40 старых шахтаў і пабудова ня менш 50 новых. Значныя сумы асыгнаваны на разьвіцьцё вугальнай прамысловасьці на Урале, бо савецкі ўрад жадае падняць здабычу вугалю да 75 млн. тон у 1932 годзе. СССР мае намер навадніць Эўропу вугалем“.

Але. Затапіць Эўропу. Ды ня толькі Эўропу—увесь сьвет. Мы паказваем і давядзем, што толькі соцыялістычны мэтод гаспадараньня **м о ж а** пазбавіць гаспадарку ад бязупынных крызісаў і катастрофы ўласьцівых капіталістычнай грамадзе.

Пагібаючы капіталізм ня выратуе „ні бог, ні цар і ні герой“. Ня выратуе нават сам „рабочы“ прэм'ер Макдональд, бо рабочыя масы ў карак гоняць „рабочых“ міністраў, калі яны адважваюцца паказацца ў рабочых кварталах.

Зусім не дарма ангельскія рабочыя пераклалі на ангельскую мову і расьпяваюць старую расійскую нелегальную песьню 1893 году, складзеную ў гонар таго, што царскія міністры выяжджалі „задавальняць“ сялянскія скаргі.

„Что у вас министры были?—Были.
Ваши нужды рассмотрели?—ели.
Как же с ними поступили?—пили.
Справедливо и умно ль?—Ноль“.

Вось гэтак зараз і з ангельскімі рабочымі міністрамі. Ня могуць яны задаволіць патрэбы ангельскае рабочае клясы, бо ня гэткімі мэтодамі пролетарыят павінен змагацца за хлеб і працу.

Памірае „старая вясёлая Англія“. Не шкада. Дапаможам ёй хутчэй сайсьці з сусьветнай сцэны, каб уступіць месца сусьветнаму Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у якім пачэснае месца зойме пролетарская Англія.

**П. Кар**



Унівэрсытэцкі гарадок у Менску.

# ЗА ДВА ТЫДНІ

Выгнаны з Румыніі прынц Кароль, сучасны румынскі кароль, жыў у Парыжы. Кепская хвала замацавалася за прынцам, але-ж будучы монарх жыў спакойна.

Як і мае быць ва ўсякім авантурным романе, навакол прынца заснавалася тонкае павуціньне палітычных інтрыг.

Сам прынц ва ўсёй гэтай гульні прымаў самы актыўны ўдзел, заляцаўся часамі з французскім і італьянскім імпэрыялізмам. Вядома, што ня прынц быў кіраўнічай асобай на палітычнай шахматнай дошцы. Там загадвалі французскія гензралы, дыплёматы, тоўстапузы. Гульня праводзілася ня толькі ў вялікіх эўропэйскіх сталіцах—у Парыжу і Рыме, але нават і ў Бухарэсьце.

Напярэдадні дварцовага перавароту і звароту Кароля, Бухарэст наведаў французскі гензрал Бэртэлё і буйнейшы прадстаўнік ф'нансавага капіталу Францыі Люшэр. Ня цяжка дагадацца, якую задачу паставілі перад сабой пасланцы французскай буржуазіі.

Найлепшы адказ дае на гэта тое, што пэртыі, якія ня так даўно настойвалі на тым, каб ня пусьціць Кароля ў Румынію, якія ў свой час дабіліся правядзеньня закону аб яго выгнаньні, зараз з чульлівым адзінствам выказаліся за агалашэньне прынца каралём. У гэтай ганебнай справе найбольш агідную ролю адыгралі лідэры социял-дэмократыі. Яны загаварылі пра „дэмократычнае разьвіцьцё" краіны пад „высокім" кіраўніцтвам монарха.

Толькі лібэральная партыя захоўвала бачнасьць опозыцыі каралю, хаця тым часам шмат хто з лібэралаў павялі курс на згоду... Уся „опозыцыйнасьць" тлумачыцца толькі страхам згубіць аўторытэт у абіральшчыкаў, якім яны абяцалі ня ўпушчаць прынца бунтаўшчыка ў Румынію.

Французскі імпэрыялізм увесь час вядзе актыўную політыку накіраваную супроць СССР. Асабліва турбуецца французскі ўрад аб узмацненьні нашых бліжэйшых суседзяў — Польшчы, Румыніі і прыбалтыцкіх дзяржаў. Ня толькі ўзбройваньнем і сродкамі дапамагае ім французскі імпэрыялізм, але і „добрым словам". Інспэктарскія паездкі французскіх генэралаў, якія атрымалі ўжо мянюшку: коммі-вояжэра, за апошні час сталі адбывацца часьцей. Французскі генэральны штаб ставіць стаўку, і не бяз посьпехаў, на тое, каб стаць сапраўдным уладаром узброеных сіл нашых суседзяў.

У якой-жа ступені зварот Кароля ў Румынію адпавядае імкненьням тых, хто зьяўляецца натхняльнікам антысавецкай політыкі.?

Адказ на гэтае даў уноў сьпечаны монарх у першыя-ж дні свайго ўступленьня на трон. У часе прыёму генэралаў каролістых, Кароль заявіў, што ён лічыць сваёй важнейшай задачай умацаваньне арміі і экономічнае аднаўленьне краіны, пры дапамозе замежнага капіталу. Зусім адкрыта гаворачы аб СССР, Кароль заявіў, што ён будзе патрабаваць павялічэньня асыгнаваньняў сродкаў на забесьпячэньне і ўзброеньне арміі і на ўдасканаленьне вайскова-тэхнічнага абсталяваньня.

Кароль дадаў, што ён лічыць канечне патрэбным стварэньне вайсковага саюзу з Польшчай, Аўстрыяй і Італіяй, а так сама і карэнныя зьмены ў камандным складзе арміі. За словамі пайшла справа. Начальнікам усіх вайсковых сіл Румыніі вазначаны былы вайсковы міністар генэрал Чукоўскі, які шчыльна зьвязаны з польскімі вайсковымі кругамі.

❖

Такім чынам, справа высьвятляецца дужа лёгка. „Экономічнае аднаўленьне Румыніі пры дапамозе замежнага капіталу"—гэта азначае, што Кароль успомніў тыя абяцаньні, якія атрымаў у той час, калі вяртаўся ў Бухарэст...

Але-ж сусьветная буржуазія плаціць за справы, але не за добрыя пачуцьці. І Кароль загаварыў аб павялічэньні арміі, яе тэхнічных сродкаў, аб „небясьпечнасьці" суседства з СССР і аб неабходнасьці стварэньня шчыльнага саюзу Румыніі з фашысцкай Польшчай. А буржуазны друк, пры дапамозе вядомага французскага журналістага Заўэрвэйна, апавясьціў сьвет аб тым, што перад новым Румынскім каралём і яго ўрадам, з прычыны „савецкай пагрозы", будзе стаяць задача замацаваньня становішча ў окупаванай румынскімі жандарамі Бэсарабіі. Заўэрвэйн, апрацоўваючы грамадзкую думку абываталяў, гаворыць пра „шкодную комуністычную агітацыю ў Бэсарабіі", якая выклікае боязьнь.

Заўэрвэйну, які з спэцыяльнай мэтай прыляцеў у Бухарэст, дапамагае па ўсім сьвеце амаль увесь буржуазны друк. У гэтым хоры далёка не апошняя роля належыць газэтам прадажнае социял-дэмократыі; пісакі гэтых газэт рады абыякому выпадку, каб толькі з яшчэ большай энэргіяй аднавіць нападкі на рэспубліку працоўных.

Комуністычная чэха-славацкая газэта „Рудэ Право", выкрываючы сапраўдны сэнс падзей, што адбываюцца ў Румыніі, заяўляе: „Румынскія падзеі зьяўляюцца адзнакай небясьпекі вайны імпэрыялістых супроць СССР, якая надыходзіць"

Як-бы адказам на гэты прогноз чэха-славацкае комуністычнае газэты зьявіўся чарговы візыт у Румынію французскай вайсковай місіі.

Вышэйшыя чыны французскага вайсковага камандаваньня зьявіліся ў Бухарэст і зрабілі генэральны агляд баявых сіл краіны. На чале місіі стаіць генэрал Гуро, які быў урачыста спатканы нованазначаным вайсковым міністрам і вышэйшым вайсковым камандаваньнем.

Па вестках, якія маюцца, французскія вайсковыя спэцыялістыя накіроўваюцца ў дунайскія гавані, а пасьля ў Бэсарабію на мяжу з СССР.

❖

Працоўныя Бэсарабіі добра зразумелі сапраўдны сэнс дварцовага перавароту, які адбыўся ў Бухарэсьце.

У Кішынёве адбылася дэмонстрацыя супроць монархізму, за рабоча-сялянскую ўладу. Дэмонстранты несьлі чырвоныя сьцягі і транспаранты з рэволюцыйнымі лёзунгамі „Далоў фашысцкі рэжым і антысавецкую імпэрыялістычную бойку". „Няхай жыве румынскі пролетарыят і яго саюз з сялянствам".

Пад такімі лёзунгамі праходзіла дэмонстрацыя. Паліцыя, якая напала на дэмонстрантаў, атрымала адзінадушны адпор.

Вось як спаткалі працоўныя прыход на трон свайго караля — скандалістага і злодзея.

❖

У той час, як у Бухарэсьце адбыўся дварцовы пераварот, аб антысавецкай сутнасьці якога мы толькі-што казалі, у фашысцкай Польшчы зноў разгарнулася выключная па нагласьці і хлусьлівасьці кампанія цкаваньня СССР.

Савецкі ўрад напомніў Польшчы аб тым, што трэба даць адказ на ноту па справе аб замаху на ўзрыў савецкага паўнамоцнага прадстаўніцтва ў Варшаве. Пасьля гэтага напамінку міністрам замежных спраў Залескім быў дадзены нездавальняючы адказ, які быў яўнай адпіскай.

Гэты нездавальняючы адказ Залескага паслужыў сыгналам для друку пілсудчыкаў. Згубіўшы ўсялякае пачуцьце меры, газэты „Краковскі Кур'ер Ілюстрованы" зноў называе выбуховую машыну закладзеную ў комін савецкага паўпрэдства ў Варшаве, бляшанай трубкай, набітай „ня дужа шкодным порахам". Разьвіваючы свае падобныя да трызьні думкі ў гэтым напрамку, газэта дагаварваецца да таго, што падрыхтоўка да выбуху вялася савецкім прадстаўніцтвам і ажыцьцяўлялася сіламі расійскіх монархістых... У такім-жа напрамку „дзейнічаюць" і іншыя газэты, якія кіруюцца лёзунгам — у адносінах СССР усё дазволена. Прыблізна ў гэты-ж час тэлеграф прынёс новыя даныя аб змове польскага фашызму з украінскімі белаэмігрантамі. Па загадзе польскіх фашыстых у „Урадзе" без дзяржавы адбыўся апэрэтачны пераварот. Белагвардзеец Сальскі скінуў Андрэя Лявіцкага, прэм'ера ўраду „украінскай народнай рэспублікі", які шчасьліва пражывае на тэрыторыі фашысцкай Польшчы.

Генэрал Сальскі абвясьціў сябе дыктатарам „украінскай рэспублікі". Газэта „Украінскі Голас" паведамляе, што паміж польскім і пэтлюраўскім урадам (?) заключана новая ўмова аб падзеле Савецкае Украіны на падставе ўмовы, заключанае паміж Пілсудзкім і Пятлюрай дзесяць год назад, напярэдадні паходу на Кіеў.

Такім чынам нацыяналістыя прадаюць, а фашысцкая Польшча купляе гарады Савецкае Украіны... І гэта адбываецца ў той момант, калі дыплёматы Польшчы гавораць аб тым, што яны перапоўнены самымі мірнымі намерамі ў адносінах да СССР. Бясспрэчна, што гэтыя куплі і продажы зьяўляюцца верным паказьнікам сапраўдных намераў польскага фашызму.

❖

Новы румынскі кароль заявіў, што ён мае намер кіраваць краінай накшталт Пілсудзкага. Кароль намераны ў хуткім часе сустрэцца з Пілсудзкім...

Шляхі польскага і румынскага фашызму яшчэ больш сходзяцца. Два васалы французскага імпэрыялізму выконваюць волю свайго гаспадара.

Савецкая грамадзкасьць пільна сочыць за новымі манэўрамі сусьветнага фашызму, які шалёна рыхтуецца да вайны.

# Кніжная вітрына

**Р. МУРАШКА.**—Прыгранічны манастыр (апавяданьні)—„Мастацкае слова—масам“ БДВ Менск, 1930 г. 92 стар. Цана 30 кап




У сэрыі „Мастацкае слова—масам“ мы ўжо маем цэлы шэраг твораў сучасных беларускіх пісьменьнікаў.

Кніжка Рыгора Мурашкі зьмяшчае тры апавяданьні: „Вінгесьцер“, „Прыгранічны манастыр“ і „Галіна“.

Найлепшым творам зьяўляецца „Прыгранічны манастыр“, дзе ў форме прыгодніцкага апавяданьня паказваецца барацьба органаў ДПУ на мяжы з шпіёнамі і кантрабандыстамі.

Ап. „Вінгесьцер“ дае адзін з абразкоў польскай окупацыі.

Тэма хуліганства закранута ў апавяд. „Галіна“.

Трапна і захапляюча пабудаваны сюжэты, рознастайная тэматыка кніжкі дапамогуць яе пашырэньню сярод самых шырокіх колаў працоўных чытачоў.

**А. ГАЛОЎКА.** — Бур'ян (аповесьць) Пераклад з украінскае мовы. БДВ Менск 1929 г. 215 стар. Цана 1 р. 35 кап.




Аповесьць вядомага украінскага пісьменьніка А. Головко „Бур'ян“ атрымала на конкурсе пры Наркамасьвеце УССР, прысьвечаным дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі, прэмію.

Головко добра ведае вёску, і ўмее паказаць яе чытачу жывой непадфарбаванай. Умее ён паказаць і тыя дзьве сілы на вёсцы, якія вядуць змаганьне не на жыцьцё, а на сьмерць—сялянскую беднату, незаможнікаў, парабкоў і кулакоў ды розных падкулачнікаў. Умее ён і захапіць чытача гэтай барацьбой.

У аповесьці „Бур'ян“ паказана барацьба дэмобілізаванага чырвонаармейца комуніста Давыда Матузка з цэлай зграяй кулакоў ды ворагаў савецкай улады, якія прымазаліся да яе і ў глухім кутку далёкага сяла рабілі злачынствы.

Ясную і празрыстую мову Головко не заўсёды добра ўдалося перадаць перакладчыку.

Трэба толькі радавацца, што лепшыя творы братніх савецкіх літаратур зьяўляюцца на беларускай мове.

**АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.** Цені на сонцы. Тэма. Выд. БДВ, Менск, 1930 г. Стар. 77. Цана 55 кап.




Тэма накіравана супроць адломкаў разьбітага ўшчэнт, супроць тых прапластаваньняў нашага савецкага грамадзтва, якія аўтар трапна характарызуе як „цені на сонцы“.

Тут і „спэц“, які фактычна зусім ня спэц, а невук, тут і палітычны фокусьнік — „Падхалімаж“, які партбілетам прыкрывае свой антыпартыйны сапраўдны твар, тут і крытык, ліхвяр, распусьнік, нібы-та „марксысты“, які разьлічвае, у выпадку, калі ён ня здолее зрабіць сабе кар'еру — плехаць дамоў і зрабіцца дыяканам; тут і „прымазаўшыся фотограф — рэпарцёр, і яго прыяцель — поэта — мешчанін і нейкі мянчук, які ўчора быў „генэрал — барон сэкратар, а сёньня консультантам у саветаў“, і яшчэ, і яшчэ... Адным словам — галярэя тыпаў унутранае эміграцыі. Выкрыцьцё цэлага шэрагу шкодніцкіх організацый, трэба СВУ, які адбыўся нядаўна на Украіне, організацыя клясавага ворага ў сувязі з нашым наступам на капіталістычныя элементы гораду і вёскі, — усё гэта робіць поэму Андрэя Александровіча ў наш час асабліва актуальнай. Зьявіўшыся зараз у друку тэма адыграе сваю ролю здаровага бізуна па ценях, па падхалімах, па кумаўстве, па сваяцтве, па кар'ерызьме. Тэма зьяўляецца каштоўным баявым укладам у пролетарскую беларускую літаратуру.

Мы раім усім нашым чытачом пазнаёміцца з гэтай надзвычайна цікавай поэмай, выкарыстаць яе, як мастацкую зброю ў барацьбе супроць ценяў на сонцы соцыялістычнага будаўніцтва.

**К. ЦЫЯЛКОЎСКІ.**—На месяцы (фантастычная аповесьць, прадмова Я. Перэльмана) БДВ Менск, 1930 г. 75 стар. Цана 28 кап.

К. Цыялкоўскі
На месяцы

Аўтар гэтае кніжкі вядомы дасьледчык і вынаходца ў галіне зоралэтніцтва. Цэлую чвэртку веку працуе ён над машынай для пералётаў на плянэты, над машынай, якая працуе па прынцыпу ракеты, бо гэта толькі адзіны магчымы спосаб трапіць туды.

У гэтай аповесьці гаворыцца пра тое, што здарылася з людзьмі, якія апынуліся на месяцы. Зразумела, прыгоды гэтых людзей выдуманы: усё апавяданае адбываецца ў сьне.

Сон дае магчымасьць аўтару перанесьці сваіх гэрояў на месяц. Але тое, што апавядаецца аб самым месяцы, аб пабудове яго паверхні і аб умовах жыцьця на ім, цалкам адпавядае рачаіснасьці. Невядомы толькі некаторыя дробязі.

У кніжцы зьмешчана прадмова вядомага популярызатара, аўтара шматлікіх кніжак, у тым ліку, і „Междупланетные путешествия“ Я. Перэльмана, дзе ён навукова абгрунтоўвае думку аб магчымасьці палёту на месяц.

Малюнак Я. РАЗАНАВА.

# НЕ ПРЫНЯТЫЯ ЭКСПАНАТЫ



Правы-ўхіліст:—Значыца і ваш партрэт ня выставілі?
Нац.-дем.:—Не, уласна кажучы, выставілі... за браму.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. 12379 Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

## НА ШТОМЕСЯЧНЫ
### ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
### І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

**Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | | На 1 м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 |

ЦАНА ў розьнічным продажу **40 к.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

**ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.**

Менск, друк. БДВ, зак. 895. Галоўлітбел № 1031.